КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 20 (341) ◂ 24 мая ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



Я НЕ ЗАРАБЛЯЮ 500 ДОЛАРАЎ

Стар. 6

**АДПАЧЫВАЙЦЕ СПАКОЙНА, КРЫЗІСУ НЕ БУДЗЕ**

Па дадзеных Нацбанка, насельніцтва прадае валюты больш, чым купляе. Праблемы ў краіне могуць пачацца значна пазней, а не ўлетку, мяркуе Жаліба

Стар. 4

**ТУАЛЕТНАЯ ПАПЕРА СУПРАЦЬ УЛАДЫ**

На мінулым тыдні баліварскі рэвалюцыйны працэс спрабавалі спыніць дэфіцытам туалетнай паперы

Стар. 11

**РУСКІ КАМПАЗІТАР, ЯКОГА ЗАХАПЛЯЛА БЕЛАРУСКАСЦЬ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ПЛАН «УСХОД»: АБАРАНІЦЬ КРЭСЫ**

Нарыс Ігара Мельнікава

▸ З НАГОДЫ

# БЕЗ СВАБОДЫ НЕ БУДЗЕ І ТАЛЕНТУ

Сяргей ПУЛЬША

**Кожны год Аляксандр Лукашэнка спадзяецца на таленавітую моладзь. Кожны год ён чакае ад яе прарыву — не столькі для сябе, колькі для краіны. І вось ужо дзесяцігоддзямі гэтыя надзеі не спраўджваюцца.**




І сёлета Лукашэнка на сустрэчы з таленавітымі навучэнцамі, студэнтамі і моладдзю запэўніў, што чакае ад іх ідэй і праектаў, якія выведуць беларускую эканоміку, культуру, навуку на больш высокі ўзровень развіцця. «Вам трэба будзе накіраваць здольнасці і інтэлект на стварэнне і ўкараненне найноўшых інфармацыйных, нана-, бія- і іншых высокіх тэхналогій, каб наша краіна выйшла на перадавыя рубяжы інавацыйнага развіцця і заняла сваю нішу ў глабальнай эканоміцы ведаў», — адзначыў Лукашэнка.

Лукашэнка звярнуў увагу на тое, што ў Беларусі ёсць усе ўмовы для таго, каб моладзь змагла сябе рэалізаваць. Паводле яго слоў, выхаваннем юных талентаў займаюцца амаль 800 гімназій, ліцэяў, школ мастацтваў, дзясяткі тысяч гурткоў, студый, навуковых таварыстваў. Маладыя навукоўцы, артысты, мастакі і музыкі атрымліваюць падтрымку спецыяльных фондаў прэзідэнта. Але, на вялікі жаль, гэта сістэма не працуе.

Беларуская навука гіне, а маладыя таленты імкнуцца з'ехаць за мяжу, і гэтае знікненне мазгоў цалкам апраўданае. Для таго, каб навука нешта аддала, трэба спачатку ёй нешта даць — ніводнае дрэва без насення не вырасце.

З фінансаваннем навукі ў Беларусі вялікія праблемы, варта толькі паглядзець на беларускі бюджэт 2013 года. На праграму навуковых даследаванняў бюджэтам у гэтым годзе прадугледжана 0,66 трыльёна рублёў. На іншыя навукова-тэхнічныя праграмы — яшчэ 0,55 трыльёна. Разам — 1,21 трыльёна. Для параўнання: на міліцыю і іншыя праваахоўныя органы ў бюджэце закладзена 10,5 трыльёна, на войска — 6,1 трыльёна рублёў. Адразу бачна, што прыярытэт Беларусі, па меркаванні ўлады, палягае зусім не ў навуковай і не ў інавацыйнай дзейнасці.

Але халера з ім, з бюджэтам. Ва ўсім свеце найбольш цікавыя і ўплывовыя даследаванні фінансуюцца не з бюджэту, а са спецыяльных інавацыйных фондаў, якія ствараюць буйныя карпарацыі, і выдаюць гранты на тыя ці іншыя даследаванні. І з гэтым у нас таксама праблема. З тых часоў, а мінула ўжо 15 гадоў, як беларускія ўлады фактычна выгналі з краіны Фонд Сораса, ніводны нармальны ўплывовы навуковы фонд не спяшаецца працаваць з Беларуссю. Беларускія навукоўцы вымушаныя самі шукаць такія фонды для «падпрацоўкі».

А як не шукаць? Па дадзеных на 2012 год, сярэднямесячны заробак за першае паўгоддзе 2012 года ў НАН Беларусі па дзейнасці «навуковыя даследаванні і распрацоўкі» склаў 3 400 000 рублёў. Уяўляю, як сябе адчувалі навукоўцы, калі, спускаючыся ў метро на станцыю «Акадэмія навук», бачылі аб'яву, што з такім жа заробкам метрапалітэн шукае прыбіральшчыцу. У старэйшага навуковага супрацоўніка тарыфны аклад разам з надбаўкамі за стаж і ступень кандыдата навук у чэрвені 2012 года складаў 2,2 мільёна рублёў.

Таму навукоўцы і вымушаныя шукаць «падпрацоўкі». Але часцяком гэта шкодзіць планавай навуковай дзейнасці.

Да таго ж не ёсць сакрэтам і меркаванне самога Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што навука павінна быць «бліжэй да гаспадаркі». Апошні раз ён казаў пра гэта ў студзені гэтага года. «Мы не можам дазволіць сабе распыляць сродкі дзеля задавальнення чыста акадэмічнай цікаўнасці. Беларуская навука павінна быць заточаная пад патрэбы нашай суверэннай дзяржавы і стаць больш кампактнай па сваёй структуры», — заявіў прэзідэнт.

Патрабаванне ад навукі стаць «заточанай пад патрэбы» проста ставіць на навуковай дзейнасці крыж. Таму што галоўнае ў навуцы ўсё ж не тэхналогіі і не інавацыі, а фундаментальныя даследаванні. Без фундаментальных даследаванняў няма і не можа быць ні новых метадаў, ні новых тэхналогій. Усе сучасныя тэхналагічныя дасягненні з'явіліся на свет дзякуючы таму, што хтосьці доўга і пакутліва працаваў над фундаментальнымі даследаваннямі.

Ніхто не можа сказаць загадзя, якую практычную карысць прынясуць новыя веды, здабытыя фундаментальнымі навукамі. Іх вынік не заўсёды прадказальны і часта нечаканы. Як нечаканай была табліца Мендзялеева нават для самога Мендзялеева.

Але галоўнай праблемай самі навукоўцы лічаць не сродкі і не тэхналагічную базу. Як сказаў акадэмік Аляксандр Вайтовіч, даследаванні можна рабіць і на календы, іншая справа, які вынік будзе ад такіх даследаванняў. А вось без чаго захлынецца навука — дык гэта проста без свабоды.

«Без свабодных навуковых дыскусій немагчыма атрыманне новых ведаў і практычных высноў. А зараз мы ў навуцы бачым тое ж самае, што і ва ўсім грамадстве: манапалізацыя права на ісціну, перашкода навуковым дыскусіям, кіраванне догмамі, а не вынікамі навуковага аналізу. Не можа быць навукі там, дзе пануе мадэль каманднa-адміністрацыйнага кіравання творчымі калектывамі», — кажа Вайтовіч.

Тое ж самае, але іншымі словамі кажа і былы рэктар БДУ Аляксандр Казулін. Паводле яго, «не можа быць навукі там, дзе ёсць жорсткая скіраванасць на ўхваленне і выкананне загадаў адной канкрэтнай асобы». А там, дзе такое ёсць, дзе крок налева-направа караецца смерцю, ні фундаментальнай, ні практычнай навукі не будзе.

Разняволенне думкі, шчыры абмен ідэямі і крытыка гэтых ідэй — гэта тое, на чым грунтуецца навука. Але ў «закрытым» беларускім соцыуме думка і крытыка з'яўляюцца хіба што не крымінальным злачынствам. Ужо былі выпадкі, калі за «альтэрнатыўную» навуковую дзейнасць людзі выляталі з працы і са сваіх навуковых інстытутаў. Варта толькі прыгадаць звальненне з ВНУ аўтараў падручніка «Гродназнаўства» — толькі за тое, што ў кнізе не была паказаная «кіруючая і накіроўваючая» роля Аляксандра Лукашэнкі.

Без свабоднай думкі не існуе навукі. А пакуль свабоды няма, дарэмна прэзідэнт чакае «прарыву» маладых талентаў. І ніякія дзясяткі тысяч кружкоў і навуковых таварыстваў яму ў гэтым не дапамогуць.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### МІКАШЭВІЧЫ: З АКТЫВІСТАМ НЕ ПРАЦЯГНУТЫ КАНТРАКТ

**Экскаватаршчык прадпрыемства «Граніт» і сябра незалежнага прафсаюза Леанід Дубаносаў даведаўся пра гэта ўвечары 21 траўня, калі ўпершыню выйшаў на працу пасля адпачынку, аднак не быў дапушчаны на сваё месца для выканання службовых абавязкаў у начную змену.**

Начальнік варты Руслан Буневіч паведаміў Дубаносаву, што яшчэ 16 траўня з ім не быў працягнуты працоўны кантракт. Аднак ніякіх дакументаў, які б пацвярджалі гэтыя словы, Буневіч не прадставіў. У сваю чаргу, Леанід Дубаносаў запрасіў сведкаў і склаў акт пра тое, што яму не дазволілі распачаць працу.

Варта заўважыць, што Дубаносаў да апошняга часу заставаўся адзіным з ініцыятараў стварэння суполкі Беларускага незалежнага прафсаюзу на РУПП «Граніт» у Мікашэвічах, які дагэтуль працаваў непасрэдна на згаданым прадпрыемстве. Усе іншыя актывісты гэтага прафсаюзу, супраць з'яўлення якога амаль паўтара гады выступае адміністрацыя «Граніта», ужо звольненыя і не здолелі дамагчыся аднаўлення на працы праз суд.

### БАРАНАВІЧЫ: ДРУГІ РАЗ ЗАБАРАНІЛІ МІЛАВІДСКІ ФЭСТ

**Баранавіцкі райвыканкам другі раз забараніў Мілавідскі фэст, прысвечаны 150-м угодкам Мілавідскай бітвы 1863 года.**

Культурна-асветніцкае мерапрыемства было запланавана грамадскасцю горада і раёна першапачаткова на 2 чэрвеня, але райвыканкам забараніў яго правядзенне, паведаміўшы арганізатарам, што «ў гэты дзень і ў гэтым месцы аддзел культуры Баранавіцкага райвыканкама запланаваў правядзенне свайго мерапрыемства ў сувязі з 150-мі ўгодкамі Мілавідскай бітвы 1863 года, таму правядзенне другога мерапрыемства па гэтай тэматыцы не мэтазгодна».

— Паколькі фактычна няма інфармацыі аб запланаваным аддзелам культуры райвыканкама мерапрыемстве на 2 чэрвеня, то арганізатары Мілавідскага фэсту падалі новую заяву аб дазволе на перанос свайго мерапрыемства на 9 чэрвеня, — паведаміў грамадскі актывіст Віктар Сырыца.

Але 21 траўня арганізатары культурна-асветніцкага мерапрыемства Віктар Сырыца, Вячаслаў Болбат і Тэрэса Селівончык атрымалі чарговую забарону. Гэта стала вядома з ліста № 267 ад 20.05.2013 г. за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Анатоля Філанчука, у якім паведамляецца, што Баранавіцкі райвыканкам зноў забараняе Мілавідскі фэст, бо заяўнікі, на думку райвыканкама, парушылі п. 5 Закона РБ «Аб масавых мерапрыемствах». Але чыноўнік райвыканкама не патлумачыў, што канкрэтна яны парушылі.

Грамадскі актывіст Віктар Сырыца адзначае: «Мы як ніколі сур'ёзна падышлі да напісання заявы: указалі мэты, месца і час мерапрыемства, крыніцы фінансавання, лозунгі, напісалі падрабязную праграму фэсту, вызначылі адказных асоб, прыклалі іх абавязацельствы, заключылі дамовы з раённай міліцыяй, паліклінікай і жыллёва-камунальнай гаспадаркай па абслугоўванні нашага мерапрыемства, не давалі ніякай папярэдняй інфармацыі ў СМІ і г. д. Лічу, што не мы парушылі закон, а райвыканкам не выконвае арт. 51 Канстытуцыі Беларусі і не дае нам права на ўдзел у культурным жыцці».

Грамадскі актывіст паведаміў таксама, што ў іх ёсць яшчэ амаль 2 тыдні, і ініцыятыўная група па правядзенню Мілавідскага фэсту будзе думаць, як годна адзначыць у гэтых умовах слаўную дату нашай гісторыі.

### МАГІЛЁЎ: КДБ ЗАЦІКАВІЎСЯ БЛОГЕРАМ

**21 траўня невядомы патэлефанаваў на мабільны тэлефон Зміцера Ярмоленкі, прадставіўся супрацоўнікам КДБ і прапанаваў сустрэцца дзеля таго, каб паразмаўляць у нефармальнай абстаноўцы.**

Хлопец ад сустрэчы адмовіўся, паведаміўшы, што яна адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі ён атрымае на рукі афіцыйную позву.

Супрацоўнік КДБ сказаў, што ў гэтым няма такой вострай неабходнасці, і ён можа прыехаць да размовы на працу ў Гарсвет, дзе працуе Зміцер, аднак на наступны дзень ён так і не з'явіўся.

Магілёўскі блогер паведамляе, што дзяржаўныя структуры зацікавілі ягоныя артыкулы пра валанцёрку з Нямеччыны, Марлену Хельш, якая ад верасня мінулага года да сярэдзіны траўня гэтага года працавала ў Магілёўскім фондзе «Блакітныя берагі» з дзецьмі дашкольнага ўзросту і людзьмі з абмежаваннямі.

Сама Марлена ўжо пакінула Беларусь, аднак інтарэс да яе асобы і публікацый на магілёўскім сайце «Свабодны фармат» (http://formats.by) у рубрыцы «Дзённік валанцёра» толькі ўзрос.

Варта адзначыць, што супрацоўнікі КДБ таксама тэлефанавалі ў Магілёўскі фонд «Блакітныя берагі» і пыталіся ў яе кіраўнічкі Святланы Пагірскай, ці ведае яна пра тое, што валанцёрка з Нямеччыны друкуе свае нататкі на сайце «Свабодны фармат».

**Падрыхтавана паводле сайта spring96.org**

ЗНІКЛЫЯ

## ПАМЯЦЬ ПРА ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА

Сяргей ПУЛЬША

**Вечар памяці Дзмітрыя Завадскага прайшоў 21 мая ў межах кампаніі «Мы памятаем» аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».**

Мерапрыемства планавалася правесці традыцыйна — 16 траўня, у Дзень салідарнасці з палітвязнямі і сваякамі зніклых, аднак па просьбе сваякоў было перанесена.

Амаль трынаццаць год таму невядомымі быў скрадзены журналіст Дзмітрый Завадскі. Ужо прайшоў і суд, і нібыта вінаватыя ў злачынстве адбываюць пакаранне. Але дагэтуль не вядома, ці сапраўды асудзілі забойцаў. Галоўнае, чаго не можа дамагчыся следства, — знайсці цела журналіста. Таму Дзмітрыя і ўзгадваюць у кампаніі з іншымі зніклымі ў Беларусі.

Адкрываючы вечарыну, Марына Хоміч, старшыня «Маладых хрысціянскіх дэмакратаў», адзначыла, што ў 2015 годзе, з заканчэннем тэрміну даўніны расследавання, справа Завадскага будзе спісаная ў архіў, і «знікне там, як знік Дзмітрый Завадскі». «Але наша задача — памятаць. Таму што імёны зніклых у Беларусі павінны гучаць нават пасля таго, як мы ўрэшце даведаемся праўду пра гэтыя знікненні. Таму што Завадскі, Ганчар, Красоўскі, Захаранка — гэта не проста зніклыя, гэта ўжо наша гісторыя», — заявіла Хоміч.

На сустрэчы прысутнічалі і былая жонка Дзмітрыя Завадскага Святлана, і маці Дзмітрыя Вольга Рыгораўна. Па словах Святланы Завадскай, улады ўпарта маўчаць пра тое, што ж насамрэч здарылася з Дзмітрыем, і пра тое, як яны шукаюць цела журналіста, прызнанага забітым. «Ніхто не працуе са справай, нам толькі рэгулярна прыходзяць адпіскі аб тым, што вядуцца нейкія вышуковыя мерапрыемствы. Але якія мерапрыемствы — нам не паведамляюць, гавораць, што нам пра гэта паведамяць, калі будзе мэтазгодна», — сказала Святлана.

Маці Дзмітрыя, Вольга Завадская, са шкадаваннем адзначыла, што на сустрэчу не прыйшлі праваабаронцы. Яна хацела б больш пагаварыць пра тое, што яшчэ можна зрабіць, каб справа яе сына не была пакладзена ў архіў.

У тое, што па справе Дзмітрыя Завадскага адбываюць пакаранне сапраўдныя злачынцы, яна не верыць. Яна не верыць і ў тое, што матывам выкрадання Дзмітрыя было ягонае «чачэнскае інтэрв'ю», дзе ён расказваў, што падчас вайны ў Чачні на баку чачэнцаў ваявалі супрацоўнікі беларускіх спецпадраздзяленняў. Па афіцыйнай версіі следства, супрацоўнік спецпадраздзялення «Алмаз» Валер Ігнатовіч адпомсціў Дзмітрыю Завадскаму за гэта інтэрв'ю, пазнаўшы ў «баевіку» сябе.

Не атрымалі адказаў падчас суду і пытанні, хто і як сачыў за Дзмітрыем Завадскім перад выкраданнем — сведкі ж узгадвалі падазроных людзей і падазроныя машыны. Відавочна, што тут была большая арганізацыя, чым Ігнатовіч з сябрамі.

Таму справа і патрабуе дадатковага расследавання. Але на яе забываюцца. І забываюцца, на жаль, не толькі беларускія следчыя.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ЛГБТ-АКТЫВІСТА РАСПРАНУЛІ НА МЯЖЫ

**Адзін з лідараў праваабарончага праекта «ГейБеларусь» Аляксей Кулік вяртаўся ў Мінск на цягніку з Кіева.**

Прыкладна ў 4 раніцы 21 мая яго знялі з цягніка пры перасячэнні ўкраінска-беларускай мяжы, на станцыі Цяруха.

Аляксей Кулік прабыў у зале мытнага надгляду з 4 да 7 раніцы, хоць у акце пра правядзенне асабістага надгляду паказана, што працэдура доўжылася ўсяго 15 хвілін.

Падчас асабістага мытнага надгляду актывіста папрасілі паказаць багаж, тое, што было на наўтбуку і флэшцы, а таксама распранупца да бялізны. Праўда, у пошуках «забароненых для перасоўвання рэчаў» мытнікі пайшлі яшчэ далей, папрасілі прыспусціць бялізну 23-гадовага ЛГБТ-актывіста.

Ні заходніх грантаў, ні наркотыкаў, ні зброі, ні іншых забароненых для перамяшчэння праз дзяржаўную мяжу прадметаў выяўлена не было.

Канфіскоўваць пашпарт, як гэта рабілі пры надглядзе лідара «ГейБеларусі» Сяргея Андросенкі ў студзені і сакавіку гэтага года, не сталі.

Афіцыйнай падставай асабістага мытнага надгляду назвалі супадзенне, маўляў, тыя, хто часта ездзяць праз мяжу, перыядычна праходзяць такую працэдуру. Таксама актывіста папярэдзілі пра магчымую паўторную падобную працэдуру, калі ён будзе перасякаць дзяржаўную мяжу.

У асабістай гутарцы адзін з мытнікаў сказаў, што не ведае, за якую правінннасць памежнікі знялі з цягніка маладога чалавека.

**GayBelarus.by**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## «КАЛОДЗЕЖ У ЖЫЦЕ»

Марат ГАРАВЫ




**Вечарам 22 мая ў Мінску адбылася прэзентацыя зборніка паэзіі вядомага беларускага мастака і грамадскага дзеяча Аляксея Марачкіна «Калодзеж у жыце».**

У 246-старонкавае выданне, якое пабачыла свет у выдавецтве Ігара Логвінава, увайшлі вершы, паэмы і прысвячэнні. Прадмову да кнігі напісаў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, паэт, публіцыст і грамадскі дзеяч Анатоль Вярцінскі.

Як адзначыў Аляксей Марачкін, менавіта вясковая беларушчына (а нарадзіўся мастак у вёсцы Новая Слабада (былая Папоўшчына) Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці) ды бацькі — Антон і Хадора Марачкіны зрабілі найбольшы ўплыў на фармаванне душы хлопчыка. Маці — народныміі песнямі і паданнямі, а бацька — вясковы бібліятэкар — сваім лёсам, думкамі і паводзінамі. «Больш за ўсё мне спадабалася складаць вершы і маляваць. У шостым класе я нават адправіў у дзіцячы часопіс «Бярозка» свой малюнак старой вярбы каля хаты і верш. Але на вокладцы часопіса быў апублікаваны толькі мой малюнак. І яшчэ невядома, як склаўся б мой творчы лёс, калі б гэты верш быў надрукаваны», — сказаў творца.

Затым ён прадставіў урывак з сваёй дакументальна-публіцыстычнай стужкі, зробленай у студэнцкія гады па матэрыялах святкавання ў 1967 годзе ў Жодзіна 50-годдзя Кастрычніцкага перавароту, паказаў шэраг сваіх новых карцін, у тым ліку нонканфармісцкіх, а таксама прачытаў некаторыя свае творы.

Сярод іх — вершы, навеяныя класікамі Янкам Купалам і Уладзімірам Караткевічам, прысвячэнні рускаму паэту Міколе Рубцову, мастакам Алесю Шатэрніку, Міколе Купаве, Васілю Шаранговічу і светлай памяці Уладзіміру Сулкоўскаму, палітыку Паўлу Севярынцу і паэту Яўгену Гучку.

У вечарыне прынялі ўдзел салістка Белдзяржфілармоніі Таццяна Грыневіч-Матафонава і бард Кастусь Герашчанка.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЧАМАДАН ВАМ У РУКІ!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У такое надвор'е людзі спешна завяршаюць свае справы і імкнуцца з'ехаць куды-небудзь у лес, на рэчку, альбо, каму сітуацыя дазваляе, увогуле ў адпачынак. І такі валізкавы настрой адбіваецца на ўсіх сферах жыцця.**




Яшчэ адзін сюрпрыз чакае тых, хто шмат катаецца ў суседні Еўрасаюз на закупы — у прыватнасці, у Вільню. З уводам новага графіка прадугледжана скарачэнне часу ў шляху з трох да двух з паловай гадзін цягнікоў «Мінск — Вільнюс»

Першая тыднёвая навіна дрэнная. Як і казалася раней, праезд падаражэе. Даўно ўжо абмяркоўвалася гэтая тэма, але казалася толькі пра тое, што падаражэе ён увесну. Вясна на заканчэнні, і пад яе фініш нам вырашылі спраўдзіць дадзенае абяцанне.

Праезд у грамадскім транспарце Мінска падаражэе з 25 мая да 2 тысяч беларускіх рублёў, паведамілі ў КУП «Мінсктранс». Пакуль не паведамляюцца новыя цэны на праязныя.

У некаторых абласных цэнтрах — Брэсце і Гродне — падаражэнне праезду ўжо адбылося. У рэгіёнах кошт адной паездкі вырас да 1 700 рублёў.

Інфармацыі пра магчымыя далейшыя падаражанні квіткоў на гарадскі транспарт у прадстаўнікоў КУП «Мінсктранс» у цяперашні час няма. Аднак, як паведамляў у сакавіку начальнік аддзела арганізацыі пасажырскіх перавозак ДУ «Сталічны транспарт і сувязь» Аляксей Касінскі, у Міністэрства эканомікі была накіравана прапанова аб двух на працягу 2013 павышэння тарыфаў. Па іх выніках кошт адной паездкі павінен вырасці да 2 300 рублёў. Магчыма, павышэнне будзе ўвосень, калі ўсе вернуцца з адпачынкаў.

Між тым, беларуская сталіца рыхтуецца да святаў, і традыцыйна будзе сустракаць апошнія званкі і выпускныя ў школах на цвярозую галаву. Абмежаванне на рэалізацыю спіртных напояў і піва будзе дзейнічаць з 10.00 да 23.00 30 мая і з 16.00 11 чэрвеня да 10.00 12 чэрвеня.

Чыноўнікі ўсё яшчэ спадзяюцца, што абмежаванне гандлю спіртным дазволіць папярэдзіць здзяйсненне моладдзю правапарушэнняў у стане алкагольнага ап'янення. Хоць ні для каго даўно не сакрэт, што спіртныя запасы для першых «дарослых» святаў учарашнімі школьнікамі, а таксама іх бацькамі робіцца задоўга да абвешчанага Мінгарвыканкамам часу «Ч». Больш за тое, у мэтах эканоміі алкаголь і піва купляюцца ў дыскаўнтэрах аптовымі партыямі.

Свае высновы з гэтага зрабілі і арганізатары «дзён цвярозасці». Дзеянне абмежаванняў і забароны гандлю алкаголем у мінскай мэрыі вырашылі пашырыць па геаграфічным прынцыпе — звярнуліся да калег з Мінаблвыканкама з рэкамендацыяй абмежаваць продаж спіртнога і ў гіпермаркетах на ўскрайку Мінска, якія юрыдычна адносяцца не да горада, а да Мінскага раёна.

Акрамя спіртнога, на развітанне са школай таксама забаронена прыносіць петарды і іншыя піратэхнічныя вырабы. Пад забарону трапілі нават кітайскія ліхтарыкі.

Прыемны падарунак да свята лета падрыхтавала Беларуская чыгунка. З 26 мая на Беларускай чыгунцы ўводзіцца графік руху цягнікоў на 2013/2014 гады.

Графік прадугледжвае захаванне існуючых маршрутаў у паўднёвым кірунку ў зносінах з Сімферопалем, Еўпаторыяй, Марыупаль, Варнай, а таксама маршрутаў у зносінах з Расіяй і краінамі Балтыі. У перыяды масавых (летніх, канікулярных, святочных) перавозак таксама плануецца прызначэнне дадатковых цягнікоў і беспerасадачныя вагоны, якія курсуюць як унутры краіны (у напрамку Гомеля, Брэста, Гродна), так і ў міжнародных зносінах (у кірунку Масквы, Санкт-Пецярбурга).

Традыцыйна ў сувязі з правядзеннем Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», які запланаваны на 11–17 ліпеня, разглядаецца прызначэнне спецыяльнага цягніка Мінск — Віцебск. Яго расклад будзе ўзгоднены з праграмай правядзення свята.

Яшчэ адзін сюрпрыз чакае тых, хто шмат катаецца ў суседні Еўрасаюз на закупы — у прыватнасці, у Вільню. З уводам новага графіка прадугледжана скарачэнне часу ў шляху з трох да двух з паловай гадзін цягнікоў «Мінск — Вільнюс». Прычым, калі раней паміж Мінскам і Вільнюсам па будных днях курсіравала дзве пары цягнікоў, а па выхадных — тры, то з 26 мая па будних будзе курсіраваць тры пары цягнікоў, а па выхадных — чатыры. «Скарачэнне часу ў шляху стане магчымым за кошт укаранення новага парадку пагранічнага і мытнага кантролю ў дадзеных цягніках. Працэдура дагляду і праверкі дакументаў будзе ажыццяўляцца на тэрыторыі Беларусі падчас руху на ўчастку Маладзечна — Гудагай, а на тэрыторыі Літвы — на станцыі Вільнюс», — паведамілі ў прэс-службе Беларускай чыгункі.

Канешне, не зусім зручна праходзіць мытны і памежны дагляд на вакзале ў чэргах. Але ж нашы едуць туды, збольшага, па прынцыпе «зялёнага калідора»: з мінімальнай колькасцю рэчаў, але з максімальнай колькасцю грошаў. Гэта назад яны пруць з сабою палову «Акропаліса».

А вось каму не пашчасціла летам, дык гэта дзяржчыноўнікам. На лета іх паслалі ў іншыя месцы.

Пастановай № 396 ад 20 мая 2013 года Саўмін РБ устанавіў заданні дзяржаўным органам і арганізацыям па нарошчванні экспарту тавараў на новыя перспектыўныя рынкі. Новымі перспектыўнымі рынкамі вызначаны Аўстралія, Алжыр, Ангола, Бахрэйн, Балівія, Габон, Гамбія, Гана, Грэцыя, Зімбабвэ, Іарданія, Ірландыя, Іспанія, Камбоджа, Камерун, Катар, Калумбія, Кот-д'Івуар, Кувейт, Лаос, Ліван, Малайзія, Малі, Мальта, Марока, Мазамбік, Манголія, М'янма, Намібія, Нігерыя, Нікарагуа, Аман, Пакістан, Перу, Партугалія, Саудаўская Аравія, Сенегал, Сінгапур, Славенія, Судан, Тайланд, Тога, Туніс, Філіпіны, Харватыя, Шры-Ланка, Эквадор, Эфіопія.

Згодна з пастановай, прадпрыемствы канцэрна «Белнафтахім» павінны ў 2013 годзе экспартаваць у пералічаныя краіны тавары на $650 мільёнаў, Мінпрама — на $300 мільёнаў, Мінсельгасхарча — на $100 мільёнаў, Белдзяржпрама — на $25 мільёнаў, Мінбудархітэктуры — на $20 мільёнаў і гэтак далей. Персанальная адказнасць за выкананне даведзеных заданняў ускладзена на кіраўнікоў дзяржорганаў і дзяржарганізацый.

Вось так, хтосьці будзе адпачываць, а хтосьці паспрабуе выціснуць хоць нейкую сотку баксаў з Намібіі, Ганы альбо Тога. Цікава, там хоць ведаюць, што такое долары і як яны выглядаюць?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### АЛЕГ ПРАЛЯСКОЎСКІ

Міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі задаволены беларускай прэсай. На цырымоніі адкрыцця VIII Беларускага міжнароднага медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні: гісторыка-культурная спадчына як фактар яднання», які праходзіць 22–25 мая ў Мінску, ён заявіў, што «вечнай каштоўнасцю журналісцкай працы застаюцца высокая адказнасць, увага да чалавека, вернасць свайму грамадзянскаму абавязку». «Мы ўсе разам узгадоўваем сумленную і адказную журналістыку, якая, нягледзячы на ўсе спакусы сенсацыйнасці і перадузятасці, паслядоўна працуе на карысць людзей і грамадства», — лічыць Праляскоўскі.

Напярэдадні адкрыцця медыяфоруму Праляскоўскі заявіў, што беларуская прэса адпавядае «сапраўдным сучасным тэндэнцыям развіцця журналістыкі». «У цэлым наша прэса дастаткова спакойная. Яна адпавядае менталітэту свайго народа. Ніякіх моцных узрушэнняў беларускія СМІ не выклікаюць. Уласна, іх і няма», — сказаў Праляскоўскі.

Цікава, што меў на ўвазе Праляскоўскі пад займеннікам «іх»? Узрушэнні ці СМІ?

### КУРМАНБЕК БАКІЕЎ



Былому прэзідэнту Кыргызстана вельмі пашанцавала з краінай знаходжання. А асабліва з тым, як хутка ён атрымаў ён беларускае грамадзянства.

Беларускія ўлады не разглядаюць магчымасць выдачы Кыргызстану былога кіраўніка гэтай краіны, заявіў РІА «Новости» прадстаўнік праваахоўных органаў Беларусі. «Курманбек Бакіеў з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь», — сказаў суразмоўца агенцтва і растлумачыў, што, у адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, грамадзяне рэспублікі не выдаюцца іншым краінам.

Курманбек Бакіеў і яго малодшы брат Жаныш абвінавачваюцца на радзіме ў здзяйсненні шэрагу цяжкіх злачынстваў, у тым ліку расстрэле мітынгу ў цэнтры Бішкека 7 красавіка 2010 года, і абодва былі асуджаныя завочна на доўгія тэрміны зняволення за забойства былога кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Медэта Садыркулава. Цяпер Курманбек і Жаныш знаходзяцца ў Беларусі.

Малодшы сын былога прэзідэнта Максім Бакіеў абвінавачваецца ў Кыргызстане ў здзяйсненні злачынстваў у сферы эканомікі, і ў сакавіку быў завочна прысуджаны да 25 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

### ВІКТОРЫЯ АЗАРАНКА



Знакамітая беларуская тэнісістка захавала трэцяе месца ў новым рэйтынгу WTA.

У новым рэйтынгу Жаночай тэніснай асацыяцыі (апублікаваны 20 траўня) Вікторыя Азаранка засталася на трэцім месцы. Выхад у фінал турніру ў Рыме дазволіў ёй скараціць адставанне ад расіянкі Марыі Шарапавай, якая займае другі радок рэйтынгу.

Зараз у Азаранкі 9 005 балаў супраць 8 510 тыднем раней. Шарапава страціла 675 балаў (10 015 супраць 10 690): год таму яна выйграла турнір, а зараз знялася ў чвэрцьфінале з-за грыпу.

Амерыканка Серэна Уільямс, якой Азаранка саступіла ў фінале, умацавала лідарства ў рэйтынгу (11 620 балаў супраць 11 115).

Але больш за рэйтынг Вікторыю павінна радаваць іншае. Пасля турніру ў Рыме, зарабіўшы там 213 тысяч долараў, Азаранка ўвайшла ў сімвалічны клуб тэнісістак, якія зарабілі больш за 20 мільёнаў долараў. Прычым Вікторыі ўдалося гэта зрабіць у 23 гады, а гэта — рэкордны па маладосці паказчык сярод тэнісістак. У сярэднім да ўзроўню ў 20 мільёнаў долараў тэнісісткі падыходзяць ва ўзросце 25–27 гадоў.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# СІМОН КАРДОНСКІ І БЕЛАРУСКАЯ САЦЫЯЛЬНАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ

Сяргей НІКАЛЮК

**У саслоўным грамадстве (як у нашым выпадку) лідар — гэта той, хто валодае манапольным правам на размеркаванне рэсурсаў.**



Наш правінцыйны свет пачалі наведваць расійскія інтэлектуалы. Дзякуй Беларускаму інстытуту рэформы і трансфармацыі публічнага адміністравання. У красавіку яны здолелі завабіць у Мінск Георгія Сатарава (расійскага палітычнага і грамадскага дзеяча, сацыёлага, прэзідэнта Фонду прыкладных палітычных даследаванняў «ІНДЕМ»), у траўні — Сімона Кардонскага (загадчыка кафедрай Мясцовага самакіравання Вышэйшай школы эканомікі).

Апошні раз я спасылаўся на Кардонскага ў перадапошняй «Азбуцы паліталогіі». І хто б мог падумаць, што праз два тыдні ў мяне з'явіцца магчымасць паслухаць аўтара тэорыі адміністрацыйнага рынка жыўцом.

Выказаць у невялікім газетным артыкуле асноўныя ідэі аднаго з самых арыгінальных расійскіх мысляроў — справа безнадзейная. Але ўлічваючы, што «Азбукі паліталогіі» пішуцца не для акадэмічных часопісаў, спалучэнне асобных ідэй мэтра і прыкладаў з беларускага жыцця, спадзяюся, не сапсуе газетную паласу.

## Пра разумныя патрэбы

*«Я по своим убеждениям социалист, потому что хочу, чтобы была социальная справедливость. Это главный мой политический принцип».* Гэта не Кардонскі. Гэта наш адзіны палітык (АП).

Але ёсць справядлівасць і ёсць справядлівасць. Кардонскі вылучае ўраўняльную справядлівасць заходніх класавых грамадстваў з іх роўнасцю ўсіх перад законам і размеркавальную справядлівасць саслоўных грамадстваў. У апошніх справядлівасць палягае ў размеркаванні рэсурсаў паміж саслоўямі прапарцыйна іх становішчу ў іерархіі.

Паняцце класаў пры гэтым выкарыстоўваюцца не ў марксісцкім сэнсе, а для апісання розных узроўняў спажывання (вышэйшы, сярэдні і найбольш нізкі). Паняцце саслоўяў — для апісання служэння. У саслоўных грамадствах не працуюць, а служаць.

Падчас студзеньскай канферэнцыі журналіст Радыё «Свабода» Алесь Дашчынскі пацікавіўся, чаму ў год ашчаднасці кіраўнік дзяржавы не дае асабісты прыклад. *«Для президента есть некий стандарт,* — растлумачыў АП, — *он и в одежде, и в галстуках, и в рубашках, и в часах. Это ваше лицо».*

Цікава, а якім чынам гэты стандарт спалучаецца з дэкларацыяй пра даходы, што была апублікаваная ЦВК у лістападзе 2010 года? Ці не аналаг гэта гісторыі пра мух і катлет (стандарт асобна, дэкларацыя асобна)?

Наіўныя пытанні. Як тут ні прыгадаць савецкую наменклатуру, чый галоўны абавязак палягаў у адчужэнні ад кожнага «паводле здольнасцяў» з мэтай наступнай выдачы кожнаму з завадской касы «паводле патрэбаў». Зразумела, гаворка ішла пра «разумныя» патрэбы, г. зн. патрэбы, якія адпавядаюць саслоўнаму статусу.

Праілюструю савецкае разуменне справядлівасці прыкладам з культавага фільма «Месца сустрэчы змяніць нельга»: *«А не сдал я тебя, Шарапов, потому что мы с тобой под одной шинелью спали и ты свой офицерский доппаек не жрал один под одеялом».* Саслоўны прынцып размеркавання рэсурсаў, натуральна, распаўсюджваўся і на Чырвоную Армію. У нацысцкай Германіі ўсе вайскоўцы на фронце (ад шарагоўца да генерала) забяспечваліся паводле агульнай нормы.

Для ўзгаднення класавых інтарэсаў чалавецтва прыдумала дэмакратыю. Парламент — адзін з яе элементаў. У саслоўнай сістэме механізм узгаднення інтарэсаў — сабор (веча). Зноў звернемся да савецкай гісторыі. З'езды КПСС — гэта саборы, на якіх прадстаўнікі ўсіх саслоўяў адзін раз на 4–5 гадоў узгаднялі свае інтарэсы.

Пасля заканчэння IV Усебеларускага народнага сходу (УНС) я патэлефанаваў у Мінгарвыканкам і пацікавіўся ў галоўнага ідэолага, наколькі падобнае веча можна лічыць усебеларускім. Мой сумнеў грунтаваўся на тым, што, паводле прызнання самога АП, беларускае грамадства складаецца з «большасці» і «меншасці», колькасць якой — не менш за 20%. Аднак ніводны прадстаўнік «меншасці» ў працы веча ўдзелу не прымаў.

Маё пытанне не збянтэжыла штатнага ідэолага. Ён растлумачыў, што прадстаўнікі ўсіх адміністрацыйных адзінак Беларусі і ўсіх масавых прафесій (вайскоўцы, лекары, настаўнікі і г.д.) на IV УНС прысутнічалі. Усё лагічна. Веча па-за палітыкай. Ухваленыя падчас яго працы асноўныя пункты Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011–2015 гады — гэта пералік абавязкаў дзяржавы па справядлівым размеркаванні рэсурсаў на чарговую пяцігодку.

## Сакрэт высокага рэйтынгу

Яшчэ раз вярнуся да вытокаў. Там, дзе няма класаў, няма класавых інтарэсаў, няма і палітыкі — дзейнасці па ўзгадненні інтарэсаў розных класаў. Адсюль можна зрабіць прыватную выснову: праблема беларускай апазіцыі — не ў адсутнасці харызматычнага лідара, а ў адсутнасці палітыкі як такой.



Сімон Кардонскі





У саслоўным грамадстве лідар — гэта той, хто валодае манапольным правам на размеркаванне рэсурсаў. Працытую Кардонскага: «Калі ёсць рынак, узнікаюць класы. Адносіны паміж класамі трэба рэгуляваць. З'яўляюцца законы, якія рэгулююць гэтыя адносіны. З'яўляецца судовая сістэма. А ў саслоўнай сістэме гэта ўсё — лішняе. Там няма рынку, а ёсць сістэма размеркавання. Наверсе знаходзіцца нейкі чалавек, называецца ён прэзідэнтам, генсекам ці манархам — не істотна. Ён — вярхоўны арбітр. Таму што ўсе людзі, якім размяркоўваюць рэсурсы, лічаць сябе пакрыўджанымі. У нашай краіне ёсць два тыпы скаргаў: шмат узялі і мала далі. І ўсе скаргі скіраваныя наверх, да вярхоўнага арбітра».

Скарыстаюся цытатай як ключом для дэшыфроўкі фрагмента Паслання–2013: *«Да, в последние годы образовался существенный разрыв между оплатой труда в бюджетной сфере и народном хозяйстве в целом. Сегодня данное соотношение составляет около 80 процентов, а оптимально должно быть не менее 90 процентов. Согласитесь, не должен учитель либо медицинский работник чувствовать себя ущербным перед работниками других сфер».*

Вось яно — свята размеркавальнай справядлівасці ў чыстым выглядзе. Хочаце стаць палітыкам з высокім рэйтынгам? Лёгка! Займейце права аднаасобна размяркоўваць дзяржаўныя рэсурсы — і большасць беларусаў прызнае вас за палітыка. Адзінага палітыка! Вашы асабістыя якасці пры гэтым ніякага значэння мець не будуць.

У якасці адзінага палітыка вы атрымаеце не толькі права размяркоўваць рэсурсы паміж саслоўямі, але і ствараць (скасоўваць) самі саслоўі. Быць Панам Богам дзеля гэтага не абавязкова. Класы ўзнікаюць на рынку натуральным шляхам, а саслоўі ствараюцца дзяржавай. Прыгадаем беларускіх прадпрымальнікаў. Іх з'яўленне стала магчымым у выніку прыняцця канкрэтных заканадаўчых актаў. Дык іх жа можна і адмяніць!

Пад размеркаванне падпадаюць не толькі фінансавыя рэсурсы, але і інфармацыя. Наведаем сайт Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі самі ведаеце каго (iac.gov.by). У раздзеле «Сацыялогія» апошняе даследаванне датуецца студзенем 2012 года. Такая вось аператыўнасць. Між іншым, за наш з вамі кошт.

АП у сваіх даследаваннях неаднаразова спасылаўся на закрытыя сацыялагічныя даследаванні. Кім закрытыя? Ад каго закрытыя? У чыіх інтарэсах закрытыя? Зноў жа паўстае пытанне пра крыніцу фінансавання падобнай закрытасці.

## «Потеряем учителя — капец…»

Аднак у медаля «За закрыццё інфармацыі» ёсць і адваротны бок. Хто толькі ў свой час не кідаў камяні ў каманду «маладых рэфарматараў» Гайдара-Чубайса. І гэтага яны не ўлічылі, і тое зрабілі не так. Але дзе ўсе гэтыя разумнікі былі раней? Чаму не прапанавалі свой праект рэформаў?

Праўда палягае ў тым, што «маладыя рэфарматары» апынуліся адзінай камандай, здольнай ва ўмовах надыходзячага хаосу прапанаваць хоць штосьці. І гэта ў краіне з насельніцтвам каля 300 мільёнаў чалавек! А чым тым часам займаліся 10 тысяч прафесіяналаў у галіне навуковага камунізму? Цікавае пытанне, пагадзіцеся.

Але вернемся да родных асін. Рэальная заработная плата ў студзені-лютым 2013 года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года павялічыліся на 23,2%. У лідарах апынуліся будаўнікі — 44,4%. У аўтсайдарах — бюджэтнікі. У прыватнасці, кашалёк лекараў пацяжэў на 3,3%, настаўнікаў — на 1,2%.

Размеркаванне рэсурсаў — дынамічны працэс. Знешнія і ўнутраныя выклікі, што бесперапынна мяняюцца, прымушаюць АП увесь час пераацэньваць унёсак розных саслоўяў у захаванне ўласнай бяспекі. Таму ён, як сярэдневечны аптэкар, вымушаны бесперапынна мяняць гіркі на вагах, каб утрымаць стан раўнавагі.

Сёння эканамічна актыўныя беларусы ўсё часцей пакуюць валізкі і адпраўляюцца на заробкі ў краіны блізкага замежжа. Большасць беларускіх гастарбайтараў працуюць вахтавым метадам. Але для прадстаўнікоў бюджэтных прафесій (тых жа лекараў і настаўнікаў) такі рэжым працы не прымальны.

Хто сёння памятае прарочыя словы, сказаныя ў свой час на адрас працаўнікоў школьнай адукацыі: *«Потеряем учителя — капец: будем ходить пьяные и дурные».* Спраўджваецца прагноз, бо сёння не да настаўнікаў і іншых гуманітарыяў. Будаўнікі разбягаюцца. Працаваць вахтавым метадам іх прызвычаіла яшчэ савецкая ўлада.

Але адна справа — дзяліць рэсурсавы пірог, які расце, і зусім іншая — той, што змяншаецца. Усякае змяншэнне колькасці рэсурсаў спараджае дэфіцыт, канфлікты і імкненне да перадзелу. Хто сёння памятае пра лібералізацыю, згорнутую 19 снежня 2010 года *«за семь с половиной минут»?* А хто ў апошні раз на ноч перачытваў «Зварот удзельнікаў чацвёртага Усебеларускага народнага сходу»? Асабіста я гэта раблю рэгулярна. У якім яшчэ афіцыйным дакуменце можна прачытаць, што *«логичеcким продолжением белорусского социально-экономического курса на ближайшие пять лет станет либерализация»?*

На змену лібералізацыі ўзору 2008–2010 гадоў прыйшла мадэрнізацыя. Хто ў асяродку ўладных груповак ад гэтага выйграў, а хто прайграў — мне не вядома. Інфармацыя, як я ўжо адзначаў вышэй, з'яўляецца важным рэсурсам, і права на яе атрыманне ў поўным аб'ёме (без купюр) у нас мае толькі адзін чалавек.

Наколькі гэта права рэалізуецца на практыцы — асобная размова. У іерархічных сістэмах ніжэйшыя схільныя ўтойваць дэталі ад вышэйстаячых. Д'ябал жа, як вядома, хаваецца ў дэталях.

БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ

# ПЕРАДПРОДАЖНАЯ ПАДРЫХТОЎКА

Сяргей ПУЛЬША

**Актыўнасць кантактаў ва ўсходнім кірунку зашкальвае. Два разы за тыдзень беларуская дэлегацыя наведала Маскву. 18 мая віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка паразмаўляў са сваім расійскім калегам Аркадзем Дварковічам. 21 мая ў Маскву для сустрэчы з Дзмітрыем Мядзведзевым паляцеў ужо прэм'ер Міхаіл Мясніковіч.**

Што тычыцца беларуска-расійскіх адносінаў, то яны зараз сапраўды вельмі праблемныя.

Абураная нашым раставаральна-разбаўляльным бізнэсам Масква да гэтага часу не падпісвае гадавы баланс на пастаўку нафты — Расія ўпарта дае нам нафту па кроплі, узгадняючы баланс паквартальна. Беларусь, са свайго боку, упіраецца ў «прамысловай каапераці», тармозячы даўно дамоўленае стварэнне беларуска-расійскіх холдынгаў, галоўным з якіх (а хутчэй, найбольш верагодным для таго, каб «абкатаць» далейшую схему холдынгаў) з'яўляецца «МАЗ—КамАЗ».

Расія ў адказ спрабуе абрынуць той жа самы МАЗ, не купляючы яго прадукцыю, — затаваранасць складаў прымусіла МАЗ перайсці на чатырохдзённы працоўны тыдзень, а доля расійскага рынку збыту ўпала з 14 да 7%.

Беларусь, зноў жа, то ствярае, то не стварае ў сябе расійскую авіябазу (зрэшты, гэта ўжо палітыка). Усе гэтыя пытанні абрастаюць яшчэ і дробнымі, але вельмі крыўднымі закідонамі, кшталту дыскваліфікацыі хакейнай каманды беларускага прэзідэнта ў Сочы альбо нуля балаў ад Расіі Ланской на «Еўрабачанні».

Перамовы Сямашкі з Дварковічам, як кажуць эканамісты, «скончыліся рознаскіравана». Сямашка паведаміў, што размова ішла аб праектах па стварэнні холдынгаў з удзелам беларускіх і расійскіх прадпрыемстваў. «Мы абмяркоўвалі з Дварковічам канцэпцыю (стварэння альянсу МАЗа і КамАЗа) і дамовіліся, што на працягу месяца падрыхтуем праекты статута і дагавора давернага кіравання, гэта значыць пазначым гэтаму холдынгу задачы і тое, як ён павінен працаваць. Што тычыцца «Інтэграла», «Гродна Азот», «Пеленг» — усё рухаецца, створаны рабочыя групы. Па МАЗу — КамАЗу мы дамаўляемся, па МЗКЦ ёсць розныя варыянты», — сказаў Сямашка.

Рэакцыя на такі аптымізм з боку Расіі аказалася стрыманай, калі не адваротнай. Расійская прэса паведамляе, што ў чэрвені будзе падпісаны баланс на пастаўку нафты — але не гадавы, а толькі на трэці квартал. То бок, абяцанні Сямашкі і «рабочыя групы» Расію не задаволілі.

Таму ў Маскву паляцеў Мясніковіч. Адкрываючы перамовы з Мядзведзевым, Мясніковіч заявіў, што трэба абмеркаваць «пытанні бягучыя, якія ў пэўнай ступені нашы міністры і эксперты адпрацавалі, але неабходна рашэнне кіраўнікоў урадаў, каб ужо, як той казаў, паставіць там калі не апошнюю кропку, то па меншай меры ўжо наблізіцца да лагічнага рашэння алгарытму па тых ці іншых праектах».

Мядзведзеў, як ні дзіўна, адрэагаваў на пратакольную прамову даволі нервова і радыкальна: «Я лічу, кропку трэба ставіць». Гэта значыць, што беларускія адмазкі і бюракратычныя працэдуры Расію канчаткова дасталі. Расія хацела б як мага хутчэй дасягнуць выніку, які можна памацаць рукамі: хаця б аб'ядпаўчыя дакументы МАЗа і КамАЗа, размова пра якія вядзецца ўжо два гады.

Але ў сітуацыі аўтарытарызму, як у Расіі, так і ў Беларусі, нават такія моцныя пры дэмакратыі фігуры, як прэм'ер-міністры, нічога не вырашаюць. Каб яны нешта вырашалі, холдынг «МАЗ—КамАЗ» даўно быў бы створаны. Стварэнне ж холдынгу тарпедаваў сваім выступам сам Аляксандр Лукашэнка, заявіўшы падчас паслання народу і парламенту, што гэта «бандыцкая змова», і ён на гэта не пойдзе.

Тое ж самае тычыцца і Уладзіміра Пуціна. Ніхто не мае сумневу ў тым, што Дзмітрый Мядзведзеў пры ім — несамастойная фігура. І вырашаць пытанні развязкі праблем будуць самі прэзідэнты.

Адзінае, што зараз здолелі зрабіць прэм'еры, — гэта прасвятліць патрабаванні абодвух бакоў па праблемных пытаннях. То бок, правесці перамовы па «перадпродажнай падрыхтоўцы» беларускіх прадпрыемстваў. Вырашаць жа канкрэтыку — што, каму, і па якім коште, — будуць кіраўнікі краінаў. Бліжэйшая сустрэча Лукашэнкі і Пуціна можа адбыцца 28 мая ў Бішкеку падчас нефармальнага саміту кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц АДКБ.

Калі пазіцыя Пуціна ў дачыненні да Беларусі ў цэлым і да Аляксандра Лукашэнкі ў прыватнасці збольшага зразумелая, то спадар Лукашэнка — чалавек вельмі крыўдлівы.

Пасля «шчаўчкоў па носе» на хакеі і на «Еўрабачанні» невядома, як будзе паводзіць сябе Аляксандр Рыгоравіч. Ён таксама можа заняць жорсткую пазіцыю ў перамовах, але тады нам пэржуць нафту. Ён можа зрабіць выгляд, што нічога не адбылося, і хакей з «Еўрабачаннем» яго не тычацца, але адчуваць сябе пры гэтым будзе некамфортна, што дасць Уладзіміру Пуціну дастатковую псіхалагічную перавагу (а карысць псіхалагічнай перавагі ў перамовах палкоўнік КДБ СССР не можа недаацэньваць). Ёсць і трэці варыянт дзеяння: Лукашэнка будзе пазбягаць сустрэчы з Пуціным і абмяжуецца пратакольным пацалункам. Прадказаць на гэта рэакцыю Пуціна складана, бо, напрыклад, пытанне стварэння расійскай авіябазы ў Беларусі наўпрост тычыцца і АДКБ.

Замацаваць прэзідэнцкія дамоўленасці, калі такія будуць, павінны Мядзведзеў і Мясніковіч. А ці дамовяцца пра што-небудзь бакі, стане вядома апошнімі днямі вясны.

ГРОШЫ

# АДПАЧЫВАЙЦЕ СПАКОЙНА, КРЫЗІСУ НЕ БУДЗЕ

Сяргей ПУЛЬША

**У краіне настае час адпачынкаў. Традыцыйна ў гэты час расце попыт на замежную валюту. У 2011 годзе такі попыт стаў адной з прычын дэвальвацыі. Аднак цяпер, мяркуючы па дадзеных Нацбанка, насельніцтва прадае валюты больш, чым купляе.**



www.allfrance.net

Напрыклад, у красавіку ў Беларусі фізічныя асобы набылі 605,2 мільёна долараў замежнай наяўнай валюты ў эквіваленце і прадалі 697,5 мільёна долараў. Усяго ж за чатыры месяцы гэтага года насельніцтва прадало 2 мільярды 656 мільёнаў долараў, а набыло — 2 мільярды 560 мільёнаў долараў. У выніку чысты продаж валюты насельніцтвам склаў каля 95,6 мільёна долараў.

Узнікае ўражанне, што беларусы проста перасталі адпачываць за мяжой. Але гэта не праўда. Па звестках турыстычных аператараў, з-за крызісу такія накірункі, як Грэцыя, а зараз і Кіпр, сталі карыстацца шалёным попытам у турыстаў. Зразумела, бо там усё патаннела. Мінулым годам балгарскае пасольства не паспявала выдаваць турыстычныя візы — такая ж сітуацыя прагназуецца і сёлета. Чаму ж беларусы перасталі скупляць валюту, асабліва перад адпачынкамі?

Фінансавы аналітык Сяргей Чалы звязвае гэта, у першую чаргу, з даволі кваліфікаванымі дзеяннямі Нацбанка на фінансава-валютным рынку. «Продаж насельніцтвам валюты і невысокі попыт на яе карэлююцца з досыць высокімі працэнтнымі стаўкамі па дэпазітах у беларускіх рублях, якія, нягледзячы на зніжэнне стаўкі рэфінансавання, усё ж падтрымлівае Нацбанк. Зніжэнне стаўкі рэфінансавання, як гэта ні парадаксальна прагучыць, толькі падтрымала сітуацыю на валютным рынку. Справа ў тым, што ў выніку гэтага самыя апошнія з тых, у каго былі грошы і хто не верыў у стабільнасць фінансавай сітуацыі, вырашылі крыху зарабіць на высокіх працэнтах укладаў у беларускіх рублях. Яны ўбачылі, што працэнтныя стаўкі пайшлі ўніз, але застаюцца дастаткова высокімі для таго, каб атрымаць па іх прыбытак, і паспрабавалі ўскочыць у «апошні вагон адыходзячага цягніка». І ў выніку памянялі валюту і ўклалі атрымаўшы рублі ў рублёвыя ўклады банкаў», — лічыць Чалы.

Што ж тычыцца скупкі валюты насельніцтвам, то Сяргей Чалы адзначае: цяпер Нацбанк робіць усё, каб супакоіць «дэвальвацыйныя чаканні». Пры ўсіх іншых умовах, адзначае эканаміст, вядома, такіх высокіх дэпазітных ставак, як у канцы 2011 — пачатку 2012 года ўжо не будзе. Але, тым не менш, галоўная задача Нацбанка — не дапусціць панікі на валютным рынку, і адтоку рублёвых дэпазітаў на карысць скупкі валюты — выконваецца. І выконваецца яна «псіхалагічна адчувальнай розніцай» паміж стаўкамі валютных укладаў і рублёвых дэпазітаў.

«Тут справа ў чым? Чым больш людзей не верыць у стабільнасць фінансавай сістэмы, тым больш растуць працэнты па рублёвых дэпазітах. А чым больш растуць працэнты, тым больш магчымасць зарабіць. А чым больш магчымасць зарабіць, тым менш скупляецца валюты і больш грошай асядае на рублёвых рахунках у банках. І для таго, каб захаваць такую схему, Нацбанк будзе змагацца любой цаной. Нават коштам невыканання прагнозных паказчыкаў па росту ВУП у 8,5% за год», — кажа Чалы.

Таму ў бліжэйшы час крызісу ён не чакае. «Лета будзе сумнае. Пра крызіс пакуль можна забыцца», — канстатуе спецыяліст.

А эканаміст Барыс Жаліба лічыць, што не толькі выгадныя дэпазітныя працэнты і палітыка Нацбанка згулялі сваю ролю ў такой прапанове і попыце на валюту. Сітуацыя склалася так, паколькі сышліся разам некалькі вельмі спрыяльных для Нацбанка фактараў.

Па-першае, на думку Жалібы, у грамадзян проста скончыліся свабодныя грошы. Гэта тлумачыць і павелічэнне продажу валюты, і неактыўную яе скупку: «Наш народ заўсёды быў небагаты. Статыстыка паказвае рост заробкаў, але ж вялікае пытанне, як лічыцца гэты рост. Бо ў доларавым эквіваленце кошты растуць, пры гэтым курс долара застаецца тым жа. І ў насельніцтва няма свабодных грошай, каб укладаць іх у валюту», — адзначыў ён.

Па-другое, сезон адпачынкаў пакуль фактычна не пачаўся, таму трэба глядзець, што будзе далей, бо «больш важныя лічбы за май, а не за красавік».

Па-трэцяе, у Беларусь вельмі своечасова прыйшоў чарговы, пяты транш крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Гэтыя грошы адразу ж былі залічаны ў валютныя рэзервы Нацбанка. Рэзервы крыху скараціліся, але ўсё роўна застаюцца на ўзроўні прыкладна 8,2 мільярда долараў. І пакуль рэзервы складаюць прыкладна 8 мільярдаў долараў, Нацбанку ёсць чым закрыць, у выпадку чаго, раптоўна ўзніклы попыт на валюту. Калі, канешне, такі раптоўны попыт узнікне.

Таму ў бліжэйшы час ніякага валютнага крызісу эксперт не чакае. Сітуацыя пакуль дастаткова спрыяльная для таго, каб 2011-ы год з яго праблемамі пры куплі валюты, нават у больш мяккай форме, не паўтарыўся.

Праблемы ў краіне могуць пачацца значна пазней, а не ўлетку, мяркуе Жаліба.

«Цяпер надыходзіць традыцыйны летні эканамічны «мёртвы сезон». Паніка на рынку адсутнічае, акрамя таго, чакаецца прыход апошняга, шостага траншу крэдыту АКФ. Але ў нас да гэтага часу не разварушыўся экспарт, а традыцыйнае летняе запавольванне попыту на нашу прадукцыю ўжо побач, на падыходзе. Склады забітыя экспартнай прадукцыяй, і складскія запасы працягваюць імкліва расці. Калі гэтая тэндэнцыя з тармажэннем экспарту захаваецца, то праблемы мы можам атрымаць у канцы восені — пачатку зімы. Тады скончацца крэдыты, і валюту, акрамя як з экспарту, які зараз яе не дае, узяць будзе няма адкуль», — мяркуе эксперт.

Так што пакуль ёсць магчымасць запасціся замежнымі грашыма на перыяд адпачынкаў. Але, сапраўды, улічваючы адток валюты з краіны ў перыяд гэтых самых адпачынкаў, праблемы могуць пачацца з заканчэннем адпускнога сезону.

## 31 МАЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія). 4-я серыя.
**11.00** Дакументальны серыял «Пад сонцам» (ЗША). 1-я серыя.
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.20** Журналісцкае расследаванне.
**13.50** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Паўднёвая Карэя).
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20, 22.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**22.00** Дыялогі пра цывілізацыю.
**23.20** Дзень спорту.
**23.30** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Паўднёвая Карэя).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «З каханымі не раставайцеся».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дзве зоркі».Фінал.
**22.55** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**00.10** Прэм'ера. Фільм «Барыс Гадуноў».
**03.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінішчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Міс - Мінск 2013.
**09.05** «NEXT 3». Серыял. Закл. серыя.
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Міс - Мінск 2013.
**13.55** Фільм «Коля - перакаці поле». Расія, 2005 г.
**15.40** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Мінішчына».
**17.30** Міс - Мінск 2013.
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** 1/8 Фіналу Першай лігі МС КВЗ.
**22.20** Міс - Мінск 2013.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Зоймемся каханнем». Расія, 2002 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Сёмае неба» (Расія-Украіна). 2-я серыя.
**10.15** Час футболу.
**11.05** Дакументальны серыял «Цуды прыроды» (Чэхія). Заключная серыя.
**11.40** Цела чалавека.
**12.25** Прыгодніцкі баявік «Аплачана смерцю» (Расія). Заключныя серыі.
**14.15** Авантурная камедыя «Няўлоўная чацвёрка» (Расія).
**16.45** Мазгавы штурм.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Дынама (Мінск) - Нёман. Прамая трансляцыя.
**20.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Біяграфічная драма «Дзённік яго жонкі» (Расія).
**23.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.30** Арэна.
**00.55** Фактар сілы.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**11.45** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Хутаранец».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Фільм «Ціхія сосны» (2009 г.). 2-я серыя.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі - спорт.
**17.40** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Сямейны дэтэктыў».
**21.45** Фільм «45 секунд» (2012 г.).
**23.45** Навіны - Беларусь.
**23.55** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**00.45** Фільм «Каханне для бедных» (2012 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія дзеці».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Сёмін. Адплата».
**23.00** Фільм «Як прайсці ў бібліятэку?».
**00.40** «Першая кроў».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** М/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Д/ф «У свеце мінулага».
**10.00, 01.30** М/ф «Сто грам «для адвагі».
**11.30** «На шашлыкі».
**12.25, 23.15** «Сардэчна запрашаем».
**12.55, 23.40** М/ф «Шабнам».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынства і пакаранне».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** Д/ф «З нагоды. Еўрапейскі дзень суседзяў».
**19.35** Воблака-рай.
**21.25** «Любімыя акцёры».
**21.55** М/ф.
**02.55** М/ф «Волга-Волга».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 4 серыя.
**10.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.30** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**12.00** Студыя «Белсат».
**13.30** Рэпартэр.
**13.55** Аб'ектыў.
**14.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.10** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 4 серыя.
**15.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**16.25** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**16.35** МакраФон: «Басовішча-2008»: канцэрт лаўрэатаў конкурсу.
**17.00** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**17.35** Рэпартэр.
**18.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Кароль-вінароб», серыял: 5 серыя.
**22.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.05** Студыя «Белсат».
**00.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.00** Аб'ектыў.
**01.30** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01.50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 1 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.05** Камедыя «Дзеці Дон Кіхота» (СССР).
**08.25** Існасць.
**08.50** Выпускныя экзамены па беларускай і рускай мовах за перыяд навучання і выхавання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Эксцэнтрычная камедыя «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі» (СССР - Італія).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.35** Вострасюжэтная меладрама «Кахаць па-руску-2» (Расія).
**17.25** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Крымінальная камедыя «Трое мужчын і немаўля» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Камедыйны баявік «Містар і місіс Сміт» (ЗША).
**23.45** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** Прэм'ера. «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Мультфільмы.
**13.20** Фільм «Звычайны цуд».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Фільм «Выдумшчык».
**17.10** «Паміж Ужо і Заўсёды».
**18.40** «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** «Што? Дзе? Калі?».
**23.55** Фільм «Халк».

### СТВ

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.00** «Анфас».
**07.15** Міс - Мінск 2013.
**07.20** Фільм «Мушкецёр». Германія - Люксембург - Вялікабрытанія, ЗША, 2001г.
**09.10** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.45** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**11.15** «100 адсоткаў».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Міс - Мінск 2013.
**13.45** Фільм «Беражыся аўтамабіля». СССР, 1966г.
**15.30** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Міс - Мінск 2013.
**17.45** «Уявіце сабе».
**18.20** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Персанаж». ЗША, 2006г.
**22.20** Міс - Мінск 2013.
**22.30** СТВ прадстаўляе: «Зорны рынг». Новы сезон.
**23.35** Фільм «Касабланка. Гняздо шпіёнаў». Францыя - Італія - Іспанія, 1963г.
**01.15** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.35** Фантастыка-прыгодніцкі фільм «Капітан Нэма» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**10.05** Мультфільмы.
**10.25** Тэлебарометр.
**10.30** Біяграфічная драма «Дзённік яго жонкі» (Расія).
**12.35** Наперад у мінулае.
**13.10** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.45** Беларуская кухня.
**14.20** Мазгавы штурм.
**14.55** Прыгодніцкі фільм «Белы ікол» (ЗША).
**17.10** Дарожныя прыгоды «Трыа» (Расія).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Імперыя песні.
**22.15** Прыгодніцкая драма «Другое дыханне» (Францыя).

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Каханне для бедных» (2012 г.).
**08.40** Фільм «45 секунд» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.20** Фільм «Нядзельны тата».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Вясёлыя рабяты».
**15.10** Камедыя «Рэальны тата» (2007 г.).
**17.05** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Правінцыйная муза» (2013 г.).
**00.10** Фільм «Павер, усё будзе добра.» (2012 г.).

### НТВ

**06.25** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Бывае ж такое!».
**13.50** Серыял «Мент у законе».
**19.00** Сёння.
**19.25** Серыял «Мент у законе».
**21.10** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.10** «Ты не паверыш!».
**23.10** Фільм «Адкажы мне».
**00.50** «Прамень Святла».
**01.20** «Рэакцыя Васэрмана».

### МИР

**05.00** Д/ф «Скарбы Эрмітажа».
**05.40** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10** М/с «Прыгоды капітана Врунгеля».
**12.20** Д/ф «Крыштальныя зорачкі».
**13.10** Канцэрт да Міжнароднага дня абароны дзяцей «Дарогаю дабра».
**15.10** «Па шчырасці».
**15.40** Т/с «Задумаў я ўцёкі».
**19.25** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.10** М/ф «Пяцёра дзяцей і чараўніцтва».
**21.45** М/ф «Любімая дачка таты Карла».
**23.25** «Музычны ілюмінатар. Various Artists - Toronto Rocks».
**23.55** М/ф «Казіно». [16+].
**02.05** М/ф «Свой крыж».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.55** Форум (ток-шоу).
**11.40** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Пацукі».
**12.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 4 серыя.
**13.00** «Час гонару», серыял: 35 серыя.
**13.45** «Белая сукенка», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**14.50** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямнічы палёт Рудальфа Гэса».
**15.15** «Чужое шчасце», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**16.45** «Кароль-вінароб», серыял: 5 серыя.
**17.35** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 24 серыя.
**18.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**18.55** «Джазмен з ГУЛАГу», дак. фільм, 1999 г., Францыя.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 33.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Дзеці ксяндза Шаплевіча», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**21.45** Суботні сеанс: «Журэк», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**23.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.25** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**23.45** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 2 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

**Беларусь 1**

**07.10** Эксцэнтрычная камедыя «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі» (СССР - Італія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.45** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Дзеці Дон Кіхота» (СССР).
**13.45** Заўтра - гэта мы!
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Анімацыйны фільм «Гісторыя цацак-2» (ЗША).
**17.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.05** Фантастычны баявік «Піраты Карыбскага мора» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Крымінальны трылер «Паветраная турма» (ЗША).
**00.40** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Зваротны адлік».
**12.00** Прэм'ера. Намаляванае кіно. «Хортан».
**13.25** Прэм'ера. «Георгій Буркоў. Іранічны Дон Кіхот».
**14.25** Фільм «Двое і адна».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Асяроддзе пасялення.
**17.20** Ералаш.
**17.45** Прэм'ера. «Аліменты: Багатыя таксама плацяць».
**18.45** АНТ прадстаўляе: «Эстрадны кактэйль».
**20.00** Контуры.
**21.05** Фільм «Палонныя».
**22.50** Фільм «Цацкі».
**01.00** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Фінал.

**СТВ**

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.50** Міс - Мінск 2013.
**07.55** Фільм «Персанаж». ЗША, 2006г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Міс - Мінск 2013.
**12.50** Фільм «Танцпляцоўка». СССР, 1985 г.
**14.25** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Міс - Мінск 2013.
**17.25** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Гульні запалу». ЗША, 2010 г.
**22.30** Міс - Мінск 2013.
**22.35** «Якія людзі!».
**23.35** Фільм «Уваход у пустэчу». Францыя - Германія - Італія - Канада, 2009 г.

**Беларусь 2**

**07.50** Фантастыка-прыгодніцкі фільм «Капітан Нэма» (СССР). 3-я серыя, заключная.
**09.00** Мультфільмы.
**09.55** Пазакласная гадзіна.
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Пра мастацтва.
**10.50** Дарожныя прыгоды «Трыа» (Расія).
**12.55** Фантастычны баявік «Улада агню» (Вялікабрытанія-Ірландыя-ЗША).
**14.55** Гандбол. Мужчыны. Фінал чатырох. Матч за 1-е месца. Прамая трансляцыя.
**16.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**17.15** Меладрама «На ростанях» («Беларусьфільм»).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Дэтэктыўная меладрама «Чорная архідэя» (Германія-Францыя-ЗША).
**23.25** Спорт-кадр.

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Правінцыйная муза» (2013 г.).
**10.20** Фінал нацыянальнага адборачнага конкурсу выканаўцаў дзіцячай песні «Еўрабачанне-2013».
**12.20** Фэст дзіцячай мастацкай гімнастыкі «Аліна».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Ха». Маленькія камедыі.
**14.25** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**16.15** Канцэрт «Дарослыя і дзеці».
**18.05** Канцэрт Яўгенія Петрасяна і Алены Сцепаненка.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Я яго зрабіла» (2012 г.).
**23.30** «Нядзельны вечар».

**НТВ**

**06.25** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Следства вялі.».
**14.10** «Вочная стаўка».
**15.05** «Судовы дэтэктыў».
**16.10** «Выратавальнікі».
**16.40** Дэтэктыўны серыял «Масква. Цэнтральная акруга».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** Чыстасардэчнае прызнанне.
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.45** «Жалезныя лэдзі».
**22.30** Серыял «Ліцейны».
**00.55** «Школа зласлоўя» Ток-шоў.

**МИР**

**05.00** Д/ф «Скарбы Эрмітажа».
**05.40** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.35** «Ежа».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30, 00.45** М/ф «Патрыёт». [16+].
**13.20** М/ф «Пяцёра дзяцей і чараўніцтва».
**15.10** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Вочы Вольгі Корж».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**23.15** Мультфільм «Учорашняя мішэнь». [16+].
**03.50** Д/ф «Цюркі Расіі».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзвездікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 22 серыя.
**08.05** Беларусы ў Польшчы.
**08.25** Зона «Свабоды».
**08.55** Еўропа сёння.
**09.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.15** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**10.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзвездікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**12.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 22 серыя.
**12.30** «Час гонару», серыял: 36 серыя.
**13.20** «Зямля абяцаная»: 3 серыя.
**14.10** «Джазмен з ГУЛАГу», дак. фільм, 1999 г., Францыя.
**15.10** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль.
**15.40** «Ян Павал ІІ і ягоны сябар», дак. фільм, 1999 г., Польшча.
**16.35** «Журэк», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Невядомая Беларусь: «Дзеці ксяндза Шаплевіча», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**18.55** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямнічы палёт Рудальфа Гэса».
**19.45** Дакументальная гадзіна «А калі б так здарылася?», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**20.25** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Паважны чалавек», камедыя, 2009 г., ЗША.
**00.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 33.
**01.00** Два на два (тэледыскусія).
**01.25** Вагон.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ________
Кассир Всего ________

СКАНДАЛ

# ТУАЛЕТНАЯ ПАПЕРА СУПРАЦЬ УЛАДЫ



Алег НОВІКАЎ

**На мінулым тыдні баліварскі рэвалюцыйны працэс спрабавалі спыніць дэфіцытам туалетнай паперы.**

Пасля ўвядзення вайсковага становішча ў Польшчы ў 1981 годзе ў краіне акрамя «Салідарнасці» дзейнічалі розныя групы супраціву. Адной з найбольш вядомых арганізацый была анархісцкая тэатральная група з Вроцлава «Аранжавая альтэрнатыва», якая праславілася сваімі перфомансамі. Адзін з самых славутых называўся «Пахаванне туалетная паперы» (намёк на яе татальны дэфіцыт). Тэатральная акцыя па ходу ператварылася ў масавыя беспарадкі.

Польскія будні пачатку 1980-х гадоў чымсьці нагадваюць венесуэльскія рэаліі. Як і ў тагачаснай Польшчы, тут назіраецца недахоп самага прымітыўнага гігіенічнага сродку. Калі меркаваць па шматлікіх публікацыях у прэсе, у краіне пануе ажыятаж вакол гэтага тавару. Яго, дарэчы, ахвотна абмяркоўвалі сусветныя СМІ. Так, некаторыя газеты ў дэталях апісвалі сцэны з венесуэльскіх кафэ, уладальнікі якіх прапануюць кліентам пры візіце ў WC ужываць замест звыклай паперы ваду.

Натуральна, гэта праблематыка стала проста кландайкам для аматараў жартаў. Так, мясцовыя сатырыкі жартуюць, што ўпершыню Гавана (асноўны партнёр рэжыму Чавеса) можа дапамагчы Каракасу. Як? Вельмі проста — перапраўляць у Венесуэлу увесь тыраж штодзённая газеты «Granma» (орган кубінскай кампартыі), які, быццам, дапаможа венесуэльцам камфортна задаволіць фізіялагічныя патрэбы. Іншыя сатырыкі заклікаюць Нікаласа Мадура кінуць у масы лозунг — «Радзіма або анус».

Прычыны дэфіцыту большасць звязвае з некаторымі перакосамі венесуэльскай мадэлі эканомікі. З-за таго, што з 2003 года ўрад кантралюе кошты на асноўныя прадукты, трымаючы іх вельмі нізкімі, прыватны бізнэс іх часта не жадае вырабляць. У сваю чаргу, дзяржаўны сектар, які складае 53 працэнты эканомікі, не ўключае галіну вытворчасці прадуктаў паўсядзённага попыту. Менавіта таму краіна (чацьвёрты ў свеце імпарцёр нафты!) хранічна не здольная забяспечыць сябе асноўнымі катэгорыямі нават прадуктовых тавараў. Час ад часу з паліцаў знікаюць розныя прадукты. Нарэшце прыйшла чарга і для рулонаў туалетнай паперы, якая таксама знаходзіцца ў рэестры сацыяльных тавараў.

Агенцтва AFP цытуе аднаго з дырэктараў венесуэльскіх супермаркетаў, які так тлумачыць прычыны крызісу: «Ніхто не вырабляе туалетную паперу, паколькі яе можна прадаваць выключна па дзяржаўных коштах, а значыць, вельмі танна. Таксама з-за той жа прычыны ніхто не жадае яе імпартаваць».

Арыфметыка вельмі простая: кошт упакоўкі паперы, адпаведна цыркуляру ад 2003 года, павінен быць роўны 18 балівараm. Між тым, з-за інфляцыі (толькі з пачатку года яна склала 18 працэнтаў) за апошнія гады сабекошт прадукту вырас у 3–4 разы. Яшчэ адным з фактараў, які падарваў сектар вытворчасці паперы, стаў валютны крызіс. Дзяржава два месяцы таму ўскладніла аперацыі прыватных фірм з валютнымі рахункамі, што абмежавала дзейнасць прадпрыемстваў, якім для вытворчасці паперы патрэба імпартная сыравіна.

Праўда, урад не стаў пасіўна назіраць, як народ разносіць крамы ў пошуках паперы і душыцца ў чэргах. Ужо заключаны кантракт пра набыццё 50 мільёнаў упаковак паперы за мяжой, што павінна супакоіць шалёны попыт.

Прадпрыемствам, якія занятыя у гэтай сферы, лібералізавалі доступ да валюты. Быццам, спажывецкі бум ужо сапраўды пачаў спадаць. Людзі супакоіліся. Чаго, праўда, нельга сказаць пра палітолагаў і эканамістаў.

Эксперты заўзята спрачаюцца наконт шэрагу пытанняў. Па-першае, яны спрабуюць высветліць, якое месца займаюць апошнія перабоі з паперай у маштабных эканамічных трэндах. Акурат напярэдадні выбуху ажыятажу вакол паперы некаторыя СМІ заявілі, што эканоміка Венесуэлы, якую вечна трасе ліхаманка, выйшла на больш цяжкую крызісную стадыю. Другое спрэчнае пытанне — як гісторыя з паперай адлюстравалася на іміджы рэжыму, палітычных рэйтынгах.

Трэба прызнаць, што вялікіх зменаў адсутнасць туалетнай паперы не прынесла, хаця некаторыя гарачыя галовы з апазіцыі чакалі нават выхаду людзей на барыкады. Пра стабілізацыю сітуацыі сведчаць паводзіны ўлад, якія прывычна пачалі спісваць усе свае правалы на стрэлачнікаў. На гэты раз стрэлачнікам стала кампанія «Alimentos Polar», якая займалася сабатажам, каб дэстабілізаваць урад. У прамым эфіры тэлебачання венесуэльскі гарант ужо распавёў пра выяўленыя факты таго, як дырэкцыя «Alimentos Polar» наўмысна скарачала пастаўкі на рынак.

Ці была фірма звязаная з замежнымі шпіёнскімі цэнтрамі, пакуль застаецца пытаннем. А вось наконт Google ужо ўсё зразумела. Па словах афіцыйнага Каракасу, праграмісты Google наўмысна выдаюць на пошукавы запыт «Мадура» смешныя выявы і карыкатуры на венесуэльскага прэзідэнта. Адсюль высновa: «Google стаў часткай міжнароднай кампаніі з мэтай дыскрэдытацыі Мадуры і Баліварскай Рэспублікі Венесуэлы, за якой стаяць рэакцыйныя і правыя сілы».

Аднак цалкам заспакоіць грамадства Мадура не здолеў. Сапраўдным следствам эканамічнай палітыкі стаў рост унутраных супярэчнасцяў у асяродку чавісцкай гвардыі. 20 мая апазіцыя распаўсюдзіла аўдыёзапіс, на якім, быццам, запісаная размова аднаго з апаратчыкаў Мадура і чальца кубінскіх спецслужб. З размовы можна зразумець, што вакол спікера Дыасдада Кабельё фармуецца фракцыя незадаволеных курсам Нікаласа Мадура. Каб нейтралізаваць групоўку, удзельнікі размовы нават дапускаюць сцэнар вайсковага перавароту — увод у Каракас танкаў і гвалтоўны разгон парламенту. Цяпер усе чакаюць развіцця падзей, і перш за ўсё рэакцыі Кабельё. Між тым, апазіцыя вуснамі свайго лідара Энрыке Капрылеса ўжо заявіла, што гатовая падтрымаць фракцыю спікера ў канфлікце з Мадура.

Нават калі цяперашні канфлікт унутры чавістаў будзе вырашаны, сітуацыя ў краіне застанецца напружанай. Каб пазбегнуць новага дэфіцыту імпартных прадуктаў, патрэбна дэвальвацыя балівара. Сёння афіцыйны курс венесуэльскай валюты — 6,3 балівара за долар ЗША, а неафіцыйны — амаль 23–24. Пакуль калідор будзе такі вялікі, застануцца праблемы з валютай для прадпрымальнікаў, а значыць, гарантаваныя і перабоі з пастаўкамі імпарту. Аднак пасля гісторыі з туалетнай паперай дэвальвацыя сапраўды можа стаць апошняй кропкай.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Расіянаў, якім падабаецца адпачываць у Беларусі, становіцца ўсё больш. У суседзяў іх прыцягваюць нізкія цэны, чыстыя вуліцы і даступнасць казіно — іх у Беларусі ўсё яшчэ не забаранілі. Вось толькі мясцовых жыхароў, якіх Лукашэнка за 19 гадоў свайго праўлення прывучыў да парадку і сціплых паводзінаў, гэта зусім не радуе. Атрымліваецца, што ў эгалітарысцкай краіне з камунальнай мараллю як бы з'явіліся пастаянныя насельнікі першага і другога гатунку. Магчыма, такі лёс усіх «бедных сваякоў»: як вядома, англічане пасля ўступлення Латвіі ў ЕС разглядаюць яе выключна як танны бардэль, прычым рэгулярна мочацца на помнік вызвалення ад «расійскага прыгнёту» ў цэнтры Рыгі. Розніца ў тым, што дома англічане наўрад ці дазваляюць сабе падобнае паводзіны, а вось рускія ездзяць па ходніках і ў Беларусі, і на радзіме.

**«Росбалт» (Расія)**

Беларуская эканоміка знаходзіцца на мяжы новага раўнду дэвальвацыі нацыянальнай валюты. Прычына — адсутнасць рынкаў для збыту мясцовай прадукцыі. Склады краіны завалены беларускімі таварамі, аднак вывозіць іх няма куды, а новыя тавары, між тым, працягваюць вырабляцца. Беларусь шукае новых эканамічных партнёраў, але поспехаў гэта пакуль не прыносіць. Прычынай сітуацыі, якая склалася, стала нядаўняе ўступленне ў СГА Расіі і некаторых іншых краін СНД. Таму калі краіна сутыкнулася з неабходнасцю канкураваць на звыклых рынках з новымі заходнімі гульцамі, усе эканамічныя паказчыкі дзяржавы рэзка аселі. Да канкурэнцыі беларуская прадукцыя, на жаль, аказалася не гатовая.

**Правда. Ру (Расія)**

Улады Беларусі будуць вырашаць жыллёвую праблему з дапамогай будаўніцтва арэнднага жылля. Будаваць дамы павінны будуць і прыватныя, і дзяржаўныя кампаніі. На думку экспертаў, гэтым рашэннем дзяржава прызнала ўласную няздольнасць выканаць дадзеныя раней абяцанні: забяспечыць кватэрамі як мінімум усіх, хто мае патрэбу. Спасылкі на досвед савецкага мінулага даюць падставы мясцовай грамадскасці выказаць здагадку — беларусы зноў апынуцца прывязанымі да аднаго працоўнага месца, гадамі будуць чакаць сваёй чаргі на жыллё, а потым хадзіць на дакучлівую працу, баючыся высялення з кватэры. Дзяржава ж у гэтым выпадку вырашае не толькі жыллёвую праблему, але і кадравую. У Беларусі настолькі актыўна ідзе адток кадраў, што нават давялося заканадаўча забараніць рабочым звальняцца з дзяржпрадпрыемстваў «на час мадэрнізацыі». Зараз у беларусаў з'явіцца сэнс трымацца за працоўнае месца.

**«Независимая газета» (Расія)**

Узмацненне супрацоўніцтва ў бяспецы па лініі Расія — Беларусь стварае для Украіны пэўныя выклікі і пагрозы. Як следства, гэта падштурхне Паўночнаеўрапейскія дзяржавы да падрыхтоўкі адэкватнага адказу на дыслакацыю расійскай сістэмы супрацьракетнай абароны ў Беларусі. Украіна ж у які раз стане перад выбарам: ці ўзмацняць супрацоўніцтва з АДКБ, ці ж наадварот — нейкім спосабам аднаўляць дыялог з НАТА, які пасля падпісання ў лістападзе 2013 года Пагаднення аб асацыяцыі з ЕС можа набыць большую вагу і значнасць.

**«Finance» (Украіна)**

Палітыка афіцыйнага Мінска і без таго пакінула краіну на ўзбочыне многіх еўрапейскіх праектаў — Балонскага працэсу, дыялогу па мадэрнізацыі, Усходняга партнёрства. Беларусы не атрымліваюць у поўным аб'ёме дапамогу ў рамках праграм Еўрапейскай палітыка добрасуседства з-за бесперапынных рэпрэсій у дачыненні да палітычных праціўнікаў, грамадзянскай супольнасці і незалежных журналістаў. Ад ізаляцыі, палітычнай і эканамічнай, у большай ступені пакутуюць звычайныя грамадзяне, а не функцыянеры рэжыму. Настойлівыя патрабаванні абмежаваць кантакты з вышэйшай беларускім кіраўніцтвам, у тым ліку і за кошт забароны на правядзенне такіх міжнародных мерапрыемстваў, як чэмпіянат свету па хакеі, прывялі б беларусаў да яшчэ большай адасобленасці ад Еўрасаюза.

**«Deutsche welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. ГОМАСЭКСУАЛІЗМ ЯК АСНОВА ІДЭАЛОГІІ СССР

Агенцтва палітычных навінаў (АПН) разрадзілася фантастычным артыкулам за подпісам нейкага Паўла Свяцінкова. Паводле аўтара тэксту, расійская ўлады баяцца гомасэксуалістаў, паколькі самі гомасэксуалісты, толькі іншага калібру. Свяцінкоў лічыць, што прыкладна ў 1950-я «адносіны лагерных гомасэксуалістаў супалі са структурай адміністрацыі, у аснове якой ляжаць адносіны ўлада–падпарадкаванне. Лагерная філасофія ўразіла ўсё савецкае грамадства, асабліва сілавікоў і спецслужбы. Адносіны ўлады–падпарадкавання ў Расіі многімі асэнсоўваюцца ў тэрмінах гомасэксуальнага палавога акту». Паводле аўтара, імпарт заходняй мадэлі гомасэксуалізму падрывае сістэму. «Савецкі развіты гомасэксуалізм адчувае зараз сур'ёзны крызіс, сутыкаючыся з заходняй мадэллю адносінаў да гомасэксуалістаў. Калі прызнаць геяў людзьмі, гэта будзе значыць, што губляюцца самі асновы панавання савецкага начальства. Самае незвычайнае ў артыкуле — фінал. На думку аўтара, каб пазбегнуць перспектывы крызісу дзяржаўнага гомасэксуалізму, Крэмль у бліжэйшы час распрацуе канцэпцыю «суверэннага гомасэксуалізму».

**Паводле расійскай прэсы**

### ЛАТВІЯ. ГАДАВІНА ПЕРАВАРОТУ

15 мая некаторыя латвійскія нацыяналістычныя сілы правялі акцыю каля помніка Карліса Ульманіса, каб адзначыць гадавіну перавароту 15 мая 1934 года. Дзяржаўны пераварот 15 мая 1934 года — антыканстытуцыйны захоп улады ў Латвіі прэм'ер-міністрам Карлісам Ульманісам. У выніку путчу было прыпыненае дзеянне канстытуцыі і распушчаны Сейм. У краіне былі ліквідаваныя ўсе палітычныя партыі і закрыты шматлікія газеты. Пазней Карліс сам сябе абвясціў прэзідэнтам. Сталін у 1940 годзе лёгка анексаваў Латвію. Самога Ульманіса адправілі ў Туркменію, дзе ён загадкава памёр. Нягледзячы на сціплыя вынікі дыктатуры Ульманіса, удзельнікі акцыі 15 мая лічаць, што дзень перавароту павінен стаць дзяржаўным святам. У сваю чаргу, некаторыя латвійскія гісторыкі адмоўна паставіліся да святкавання гадавіны 15 мая. «Калі б у 1940 годзе ў Латвіі дзейнічаў парламент, то сітуацыя магла развівацца зусім па-іншаму», — мяркуе шэраг левых і ліберальных гісторыкаў.

**Паводле латвійскай прэсы**

### КАТАЛОНІЯ. ДЭПУТАТКА ПАЦЯРПЕЛА З-ЗА БЛАКІТНАЙ ДЫВІЗІІ




Усе партыі Каталоніі, акрамя правых, патрабавалі пазбаўлення ад мандату дэпутата нацыянальнага парламенту Марыі дэ Лос-Льянас дэ Луна, сябры Народнай партыі (PP). Прычына — удзел Марыі ў мерапрыемстве па ўшанаванні памяці жаўнераў Блакітнай дывізіі. Блакітная дывізія, нагадаем, — фармаванне іспанскіх добраахвотнікаў, якое ўлетку 1941 года адпраўлялася ваяваць на баку гітлераўцаў у СССР. Асабліва на Усходнім фронце яны не адзначыліся, хаця, быццам, адзін раз пад Ленінградам дзве тысячы іспанцаў здолелі супрацьстаяць ціску 44 тысяч чырвонаармейцаў. У любым выпадку, сярод іспанскіх правых даўно пануе культ байцоў той дывізіі. Што нельга сказаць пра іспанскіх левых, якія бачаць у настальгіі па Блакітнай дывізіі прапаганду нацызму. Яшчэ больш адмоўнае стаўленне да Блакітнай дывізіі сярод каталонцаў (каталонская мова і культура былі забароненыя ў часы дыктатуры Франка). Народная партыя адрэагавала на крытыку з боку антыфашыстаў і вынесла Марыі вымову па партыйнай лініі. Цікава, што некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, нібыта ў Блакітнай дывізіі было шмат левых і рэспубліканцаў. Проста запіс у дывізію дапамог ім пазбегнуць пераследу франкістаў, якія на пачатку 1940-х гадоў актыўна з мэтай пакарання шукалі ў Іспаніі ўдзельнікаў рэспубліканскага руху.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. БАВАРЫЯ ЎЗГАДАЕ ВЫГНАНЫХ

Хорст Сеехофер, прэм'ер ураду Баварыі, увёў у мясцовы каляндар новае свята. Такім чынам, пачынаючы з гэтага года, кожная другая нядзеля верасня будзе адзначацца ў Баварыі як дзень памяці выгнаных. Выгнаныя — немцы, якія да вайны жылі ў Прусіі, Сілезіі, Чэхіі і былі вымушаны пасля 9 мая 1945 года пакінуць новы родны кут. Гэта навіна з Мюнхену — з разраду сенсацый, паколькі ідэя мемарыялу выгнаных мусіруецца ў нямецкай прэсе даўно. Аднак федэральны ўрад ні разу не пагадзіўся на права на ўспамін. У дадатак, прэса лічыць, што Сацыяльна-хрысціянскі саюз (CSU), якім кіруе Хорст, проста блефуе. З-за падзення папулярнасці ў Германіі ўльтраправыя маргіналы, лідары CSU вымушаны час ад часу ўсё больш фліртаваць з ідэямі левых.

**Паводле нямецкая прэсы**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ШТО КАЗАЎ ПАЛІТРУК КЛАЧКОЎ?

*Алег НОВІКАЎ*

**Нават самыя блізкія саюзнікі Мінска парушаюць савецкі дагмат трактоўкі Другой сусветнай вайны. Так, казахскія ўлады спрабуюць па-новаму паглядзець на гісторыю панфілаўцаў.**

Праўда, сам факт подзвігу панфілаўцаў дасюль застаецца прадметам гістарычных спрэчак. Нават у савецкай гістарыяграфіі ёсць тэзіс пра тое, што бой 28 салдат з 316-й дывізіі (камандзір Іван Панфілаў) пад Дубасекева ўвосень 1941-га — адзін з савецкіх міфаў, прыдуманых у тыя драматычныя дні для ўзняцця баявога духу. Пры гэтым сам факт цяжкіх абарончых баёў 316-й стралковай дывізіі на Валакаламскім напрамку ў лістападзе 1941-га не аспрэчваецца.

Так ці інакш, у савецкі час гісторыю панфілаўцаў і словы палітрука Клачкова «Вялікая Расія, а адступаць няма куды», ведалі практычна ўсе. Пасля развалу СССР, з улікам пачатку апісанай вышэй дыскусіі, пра подзвіг панфілаўцаў пачалі казаць не так часта, як раней. Акрамя Казахстану, дзе культ панфілаўцаў меў асаблівыя лакальныя рысы.

Справа ў тым, што фармавалася славутая 316-я дывізія менавіта ў Алма-Аце.Таму мемарыял Славы подзвігу панфілаўцаў у сталіцы Казахскай ССР быў, напэўна, галоўным рэспубліканскім помнікам Другой сусветнай вайны. Шанаваць панфілаўцаў працягвалі і пасля перабудовы. Спробы рэвізіі афіцыйнай трактоўкі былі, аднак дзяржава не дазваляла ніякіх адыходаў ад сімвалу веры: «28 байцоў адбілі атакі пяхоты і 50 танкаў ворага. У няроўнай барацьбе яны амаль усе загінулі, але, знішчыўшы 18 нямецкіх машын, пазіцый не пакінулі. У выніку бою гітлераўцы былі затрыманыя больш чым на 6 гадзін і не здолелі прарваць абарону дывізіі».

Аднак цяпер савецкі міф, які так упарта абаранялі казахскія ўлады ад рэвізіяністаў, раптам перастаў падабаццa ім самім.

У пачатку красавіка савет ветэранаў Алма-Аты прапанаваў змяніць надпіс на мемарыяле Славы героям-панфілаўцам. На думку ветэранаў, да фразы палітрука Васіля Клачкова неабходна дадаць надпіс: «Подзвіг казахстанцаў, якія змагаліся за Радзіму, будзем памятаць вечна». Лідар ветэранаў растлумачыў, што савет ветэранаў такім чынам вырашыў увекавечыць памяць усіх жыхароў рэспублікі, якія прымалі ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне. «З Казахстана на фронт было прызвана каля 1,5 мільёна чалавек. І нідзе пра гэта не гаворыцца», — дадаў галоўны ветэран Казахстана.

Раней у СМІ з'явілася інфармацыя пра тое, што ўлады горада



маюць намер цалкам пазбавіцца ад фразы Клачкова на помніку, а не дапоўніць яе. У прыватнасці, паведамлялася, што 16 сакавіка нейкія супрацоўнікі дэпартамента ўнутранай палітыкі Алма-Аты абтэлефанавалі ветэранскія арганізацыі горада з просьбай выбраць адзін з трох варыянтаў надпісу, якая будзе размяшчацца на мемарыяле: «Подзвіг казахстанцаў — спадчына для народа, прыклад для пакаленняў», «Вечны спакой героям-казахстанцам!» і «Подзвіг казахстанцаў, якія змагаліся за Радзіму, будзем памятаць вечна».

У выніку напярэдадні 9 мая ў Казахстане разгарнулася сапраўдная вайна за фразу Клачкова (дарэчы, крытыкамі афіцыйнай версіі сцвярджаецца, што аўтар фразы — не Клачкоў, а журналіст, які ў 1941 годзе напісаў артыкул пра бой пад Дубасекава).

У авангардзе абароны панфілаўцаў выступілі прарасійскія арганізацыі. Так, старшыня Рэспубліканскага славянскага руху «Лад» Максім Крамарэнка лічыць, што «з'яўленне ідэі аб перайменаванні мемарыяла героям-панфілаўцам — не што іншае, як імкненне разбурыць яшчэ існуючыя духоўныя сувязі паміж народамі постсавецкай прасторы. Пад лозунгамі аб неабходнасці выхавання казахстанскага патрыятызму частка казахскай палітычнай эліты спрабуе выдаліць з гісторыі Казахстана старонкі аб станоўчым вопыце знаходжання казахскага народа ў агульных з Расіяй дзяржавах, якімі былі СССР і Расійская імперыя».

Звярнулі панславісты ўвагу і на тое, што замах на словы Клачкова адбыўся паралельна з заклікам да выхаду Казахстану з Мытнага саюза. Адсюль на славянафільскіх інтэрнэт-форумах узнікла шалёная думка пра тое, што падкарэктаваць надпіс прыдумала ледзь не сама Хілары Клінтан, якая год таму заявіла пра тое, што ЗША будуць блакаваць усе інтэграцыйныя рухі ў постсавецкай прасторы.

Што тычыцца казахскіх апазіцыянераў, то іх меркаванні падзяліліся. Увогуле, нацыяналісты за тое, каб як мага менш узгадваць пра савецкае мінулае і вайну. На іх думку, сам феномен Назарбаева і яго аўтакратыі — гэта прадукт савецкай каланіяльнай сістэмы. Больш ліберальная апазіцыя разглядае гісторыю з помнікам як дэманстрацыю бескантрольнасці рэжыму, які не лічыцца з думкай людзей. Ходзяць чуткі пра тое, што на парк панфілаўцаў паклаў вока сам гарант. Быццам Елбасы хацеў бы бачыць тут помнік самому сабе. Змяненне надпісу на помніку — першы крок для таго, каб зняць з мемарыялу ауру сакральнасці, парушыць табу недатыкальнасці. Наступным крокам можа быць перанос помніка ў іншае месца.

Аднак, хутчэй за ўсё, ініцыятыва ветэранаў — чарговая стадыя «казахстанізацыі». З канца нулявых панфілаўцаў у Казахстане пачынаюць разглядаць амаль як казахскі нацыянальны легіён, які служыў у складзе Чырвонай Арміі. Вось як апісвае гісторыю дывізіі адзін з афіцыйных сайтаў: «13 ліпеня 1941-га ў Алма-Аце пачалі фармаваць 316-ю стралковую дывізію. Гэта шматнацыянальнае вайсковае злучэнне на 40 адсоткаў складалася з казахаў». Дадатковым фактарам лічыць панфілаўцаў казахамі стаў іх стыль бою. «Да бою пад Дубасекава немцы сустракалі супраціў пераважна еўрапеізаваных частак Чырвонай Арміі, але тут наткнуліся на жорсткі азіяцкі супраціў».

Варыянты неказахскага паходжання панфілаўцаў разглядаюцца як нацыянальная абраза. У 2010 годзе распачаўся амаль дыпламатычны скандал, калі ў Маскве ў ходзе маршу армій краін СНД, у прыватнасці, прадстаўнікоў узброеных сіл Кіргізіі, закадравы дыктарскі голас нечакана выдаў, што менавіта Кыргызстан вядомы легендарнай Панфілаўскай дывізіяй. З улікам апісанай прадгісторыі, цяперашні намер уладаў ператварыць Васіля Клачкова ў казахскага патрыёта — цалкам лагічны і паслядоўны крок. Зрабіць гэта, праўда, пакуль не ўдалося. Шырокая кампанія ў цэнтральных расійскіх СМІ пытармазіла актыўнасць Астаны. Пакуль што мемарыял і надпісы на ім засталіся ў першапачатковым выглядзе. Аднак наўрад ці на гэтым гісторыя закончыцца.

Як бачым, фармальная аданасць савецкай гістарычнай схаластыцы Вялікай Айчыннай вайны не перашкаджае постсавецкім нацыянальным элітам прыдумляць абсалютна арыгінальныя канцэпцыі мінулай вайны. А патрыятычная рыторыка — яшчэ адна абавязковая частка афіцыйнай ідэалогіі, удымае ролю тутэйшых у той вайне проста да гіганцкіх памераў. Тым жа панфілаўцам (чытай казахам) прыпісваюць асноўную ролю ў зрыве фашысцкага бліцкрыгу. Пасля гэтага ўжо не выклікаюць шок пасты ў казахскіх інтэрнэт-форумах а-ля «расіяне, як і амерыканцы, хочуць цалкам прысвоіць сабе перамогу ў ВАВ, хоць увесь Савецкі народ працаваў на фронт, і паміралі ад голаду і холаду ў тыле. Увогуле, большасць заводаў, фабрык і людзей было эвакуіравана ў Казахстан, аднак у СМІ Расіі ўпарта кажуць, што ў ВАВ перамаглі рускія».

ВЫБАРЫ

# БЕЗ ШАХА НІКУДЫ

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні чэрвеньскіх прэзідэнцкіх выбараў іранская палітычная эміграцыя абрала свайго новага лідара. Ім стаў сын шаха, якога ў 1979 годзе зрынулі з трону.**


Алі Рэза Пехлеві

Выбар, на першы погляд, дастаткова дзіўны. Так ці інакш, Алі Рэза Пехлеві — лідар Нацыянальнага савету (так называецца новы каардынуючы орган іранскай апазіцыі ў замежжы, створаны 29 красавіка ў Парыжы) знаходзіцца ў цені спадчыны свайго бацькі Махамеда Рэза Пехлеві. Відавочна, што ісламская рэвалюцыя 1979-га ўзнікла не на голым месцы. Напрыклад, слова SAVAK (назва шахскай службы бяспекі) у 1970-я гады не патрабавала перакладу, будучы паўсюль у свеце сінонімам вельмі брутальнай спецслужбы. Калі ў 1976 годзе Джымі Картэр узняў праблему пераследу дысідэнтаў у СССР, Масква адразу перавяла стрэлкі на Іран, дзе апазіцыянераў катавалі з дапамогай электрычнага току або нават смажылі.

У дадатак у шахскім Іране былі забароненыя ўсе формы легальнай палітычнай апазіцыі. Сам шах нават спрабаваў увесці аднапартыйную сістэму, хаця і беспаспяхова. Нарэшце, правадыр Ірану быў яшчэ тым самадурам. Усе прызнаюць, што адной з прычын рэвалюцыі стала буйное святкаванне 25-га стагоддзя іранскай манархіі на руінах старажытнага Персіпаля.

Аднак сёння, здаецца, усе выбрыкі дому Пехлеві разглядаюцца як нешта далёкае, што даўно кануло ў гісторыю. Інакш чаму за абранне новага шаха на пасаду лідара апазіцыі галасавалі самыя заўзятыя былыя апаненты манархіі? Гаворка пра дэлегатаў ад іранскіх левых арганізацый. Нямецкая газета Jungle World цытуе аднаго з іх: «Я не манархіст, аднак Алі Рэза сапраўды сімпатычны чалавек». Сімпатычны чалавек Алі Рэза, сапраўды, абсалютна не ганарыцца сваім арыстакратычным паходжаннем. На просьбу аднаго з левых іранцаў называць шаха «спадар Пехлеві», а не «Ваша Вялікасць», Алі Рэза са смехам дазволіў называць яго проста Алі. Працэнт сяброў левых партый сярод дэлегатаў кангрэсу, што высунулі Алі на лідарства, быў настолькі значным, што ў адным СМІ новую генерацыю іранскіх апазіцыянераў назвалі «сацыял-дэмакратычныя манархісты».

Таксама ў Нацыянальным савеце прадстаўленыя мулы, якія ў старыя часы таксама былі ў складзе антышахскай апазіцыі. Напрыклад, маладога шаха падтрымлівае вядомы іранскі аятала, які крытыкуе канцэпцыю Хаменэі пра сінтэз дзяржавы і царквы. У кулуарах журналістам казалі, што інтарэс да Нацыянальнага савету мае нават адзін з сябраў афіцыйнага іранскага парламента, таксама прадстаўнік кліру, які, праўда, не хоча пакуль агучваць сваё імя.

Тыя, хто адкрыта падтрымлівае манархію, у сваіх прамовах на кангрэсе абавязкова ўзгадвалі пазітыўныя бакі праўлення шаху — рэформы, якія праводзіліся ў рамках Белай рэвалюцыі: бясплатная вышэйшая адукацыя, ліквідацыя латыфундый, удзел рабочых у кіраванні прадпрыемствамі, правa жанчын на галасаванне…

Праўда, мікракосмас іранскіх манархістаў не кансалідаваны. Ёсць аматары рэстаўрацыі старых парадкаў. Ёсць (іх большасць) прыхільнікі канстытуцыйнай манархіі. Сам Алі Рэза таксама бачыць сябе ў будучым фармальным лідарам дзяржавы, якой павінна кіраваць дэмакратычна абраная партыя. Ён гатовы публічна асудзіць усе злачынствы супраць чалавека, якія мелі месца ў часы яго бацькі.

Алі Рэза нарадзіўся ў 1960 годзе пры двары і пакінуў радзіму яшчэ да рэвалюцыі ва ўзросце 17 гадоў для заняткаў авіяцыяй у ЗША. У 1980-м, калі пачалася вайна паміж Іранам і Іракам, прасіў аяталу Хамейні адправіць яго на іракскі фронт, аднак згоды з Тэгерана не атрымаў. У тым жа 1980 годзе, пасля смерці бацькі, стаў кіраўніком усяго дому Пехлеві, што не перашкаджае яму мець сваю юрыдычную фірму.

Тое, што цэнтр канстытуцыйных манархістаў знаходзіцца ў Вашынгтоне, сімвалічна сведчыць пра яго блізкія кантакты з амерыканскай элітай. Праўда, як піша прэса, іранская апазіцыя ў ЗША больш працуе з рэспубліканцамі, а не дэмакратамі.

Апошнім часам інтарэс да іранскай апазіцыі пачаў праяўляць Ізраіль. Іранская апазіцыя асуджае планы Тэгерана знішчыць «гняздо сіянізму». Цікава, што кантакты замежнай іранскай апазіцыі з Ізраілем — адзін са сродкаў для дысідэнтаў прарвацца на ўнутраны іранскі рынак медыяў. Іранскія СМІ ахвотна інфармуюць пра любыя кантакты іранскіх дысідэнтаў з Тэль-Авівам.

Які план у Нацыянальнага савету? Адпаведна прынятым дакументам, пасля таго, як рэжым аятолаў будзе зрынуты, Нацыянальны савет абяцае правядзенне свабодных выбараў і шырокіх дэмакратычных рэформаў. Праўда, не ўсё так проста з той праграмай. Падчас яе прыняцця вялікія дэбаты выклікаў пункт пра будучы дзяржаўны лад. Прысутныя асудзілі ідэю федэралізацыі іранскай дзяржавы, хаця чарнавік Хартыі (так называецца праграма Нацыянальнага савету) дапускаў магчымасць прыняцця канстытуцыі федэральнага Ірану.

Гэта вельмі важны аспект, паколькі цяпер у суседнім Баку актыўна ўздымаецца пытанне самавызначэння для азербайджанцаў, якія жывуць на тэрыторыі Ірану. У прэсе шмат пішуць пра тое, што азербайджанскае пытанне можа стаць нагодай для пачатку вайсковай інтэрвенцыі Захаду ў Іран.

Яшчэ адно са складаных пытанняў, якое было агучана, аднак не знайшло рашэння, — права Ірана на ядзерную зброю. У іранцаў вельмі развітая ідэя разумення Ірану як вялікай дзяржавы з глабальнымі амбіцыямі. Адпаведна, яны лічаць, што Тэгеран у прынцыпе мае права на ядзерную зброю.

У гэтым плане цікава агучанае на Кангрэсе пытанне: што павінна рабіць апазіцыя ў выпадку канфлікту Ірану з замежным праціўнікам? Некаторыя апазіцыянеры лічаць, што ў выпадку вайны іранская апазіцыя павінна выступіць супраць любой агрэсіі да Ірану. Іншыя заклікалі ўвогуле не абмяркоўваць гэта складанае для патрыётаў пытанне. Калі меркаваць па дэбатах, усе маюць надзею, што да вайны справа не дойдзе.

Заходнія санкцыі (апазіцыя, дарэчы, іх падтрымлівае) выклікаюць у аятолаў патрэбу сесці за стол перамоваў і лібералізаваць сістэму. Таксама вялікая надзея надаецца іранскаму войску, дзе, па словах апазіцыянераў, захаваліся традыцыі шахскіх часоў. Апазіцыя лічыць, што ў выпадку адкрытага грамадзянскага супрацьстаяння армія стане на бок народу.

Яшчэ адна фокус-група працы палітэмігрантаў — чыноўнікі. Варта адзначыць, што ініцыятарам аб'яднання іранскай дыяспары была група дыпламатаў, якія здрадзілі Тэгерану ў 2009 годзе, падчас так званых зялёных грамадзянскіх пратэстаў. Гэтыя дыпламаты адмовіліся вяртацца дахаты і засталіся ў эміграцыі. Яны лічаць, што большасць бюракратаў у Іране таксама гатовая пайсці іх шляхам. Таму асобны пункт Хартыі прысвечаны чыноўнікам. Іх заклікаюць да сабатажу і ўстанаўлення кантактаў з апазіцыйнымі цэнтрамі ў замежжы.

Наглядальнікі канстатуюць, што іранская апазіцыя за мяжой сапраўды прадэманстравала намер да адзінства. Пра гэта сведчыць, між іншым, тое, што ў рамках падрыхтоўкі мерапрыемства прынцыпы стварэння Нацыянальнага савету і яго кампетэнцыю падтрымалі каля 20 тысяч іранскіх палітэмігрантаў па ўсім свеце. Іншае пытанне, наколькі Нацыянальны савет атрымае легітымнасць унутры Ірану. Тут шмат будзе залежыць ад прэзідэнцкіх выбараў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ДАРЫН КІРТОАКЭ



Дарын — мэр Кішынёва, адзін з лідараў прарумынскай Ліберальнай партыі, якую ўзначальвае яго дзядзька Міхай Гімпу. 16 мая мэрыя Кішынёва абвясціла жалобу ў межах гораду ў сувязі з 201-й гадавінай уваходжання краю ў склад Расіі. З гэтай нагоды на будынку адміністрацыі горада былі прыспушчаныя сцягі Малдовы, Кішынёва і Еўрасаюза. Сталічны муніцыпалітэт заклікаў далучыцца да гэтай акцыі і іншыя дзяржаўныя ўстановы, каб адзначыць трагічныя наступствы падпісання мірнага дагавора паміж Расіяй і Турцыяй у 1812 годзе. Па выніках трактату, тэрыторыя сучаснай Малдовы перайшла ад туркаў да рускіх, што, на думку прарумынскіх палітыкаў, значыла раскол адзінай румынскай нацыі. Праўда, ініцыятыва Кіртоакэ не знайшла падтрымкі. Ніводны іншы муніцыпалітэт Малдовы не падтрымаў заклік мэра Кішынёва. Некаторыя, праўда, гатовыя былі адзначаць 16 мая, аднак у фармаце савецкіх часоў, калі гэты дзень святкавалі як дзень вызвалення Малдовы ад трохсотгадовага асманскага прыгнёту. Напэўна, трэба ўзгадаць, што напярэдадні 9-га мая Кіртоакэ таксама заклікаў забараніць георгіеўскую стужку як сімвал акупантаў 1812-га. На думку аналітыкаў, актыўнасць Кіртоакэ звязаная з нестабільнай палітычнай сітуацыяй, калі не выключана правядзенне датэрміновых выбараў. Лібералы намагаюцца ўжо зараз кансалідаваць свой электарат.

### НАЙДЖЭЛ ФАРАДЖ



Найджэл — лідар правай папулісцкай Партыі незалежнасці Аб'яднанага каралеўства (UKIP), якая выступае за выхад Вялікабрытаніі са складу Еўрасаюзу. Зараз партыя на ўздыме. На нядаўніх мясцовых выбарах у Англіі яна пачала наступаць на пяткі кансерватарам. Цяпер прыйшла чарга Шатландыі, дзе на адной з акругаў праходзяць датэрміновыя выбары ў мясцовы парламент. Выставіў сваю кандыдатуру і прадстаўнік UKIP, падтрымаць якога прыехаў сам лідар партыі. Праўда, візіт аказаўся сарваны. Шатландскія нацыяналісты сарвалі сустрэчу Фараджа з выбаршчыкамі ў Эдынбургу. Яму самому давялося адступіць пад аховай паліцыі ў суседні бар. У выніку мітынг UKIP ператварыўся ў маніфестацыю ў падтрымку незалежнасці рэгіёна (нагадаем, што ў наступную восень адбудзецца рэферэндум на гэты конт). Між тым, палітолагі спрачаюцца, як актывізацыя еўраскептыкаў у Англіі можа паўплываць на вынікі плебісцыту ў Шатландыі? На думку шмат каго, феномен Фараджа можа павялічыць колькасць прыхільнікаў шатландскай дзяржаўнасці падчас усеагульнага галасавання.

### СЯРГЕЙ СОБАЛЕЎ

Дэпутат украінскай Вярхоўнай рады ад аранжавай партыі Собалеў вельмі дарыгінальна пракаментаваў эпізод конкурсу «Еўрабачанне». Яго зацікавіла нізкая ацэнка, якую атрымала ад расійскай аўдыторыі ўкраінская канкурсантка Злата Огневіч. Расійская публіка дала Злаце толькі адзін бал. Собалеў бачыць тут канвульсіі расійскай імперыялістычнай ментальнасці. «Жыхары Расіі далі нам такі нізкі бал па той прычыне, што канчаткова ўсвядомілі: наш шлях у Еўропу ўжо не спыніць. І рэалізаваць імперскія замашкі не атрымаецца. Таму такая рэакцыя. Мяне яна не здзіўляе. Вельмі паказальна: Азербайджан ставіць нам адзін з самых высокіх балаў, хоць сам прэтэндуе на перамогу, а жыхары Расіі нашай Злаце, адной з фаварытак, ставяць толькі адзін бал». Як не дзіўна, з такой канспіралагічнай ацэнкай фактычна згодныя сур'ёзныя аналітыкі. Так, выданне «Комментарии» не выключае, што адзін бал для Златы — гэта пасланне Януковічу ад Крамля. Сэнс паслання, на думку журналістаў, яскравы: «Кіеву ўздумалася замест раскрытых абдымкаў Мытнага саюза падацца ў ЕС? Вось хай у Еўропе вашу Злату і ацэньваюць». Іншыя палітолагі разглядаюць скандал вакол «Еўрабачання» як ілюстрацыю моцных антыўкраінскіх фобій у расійскім грамадстве — следства таго, што Крэмль робіць стаўку ва ўнутранай палітыцы на патрыятычныя лозунгі.



▸ ЦІКАВА

# ПОЛЬСКАЕ РАДЫЁ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У часы ІІ Рэчы Паспалітай у заходнебеларускіх ваяводствах працавала некалькі польскіх радыёстанцый. Іх перадачы карысталіся вялікай папулярнасцю сярод жыхароў «крэсаў».**


Фота з асабістага архіва аўтара
Аўтамабіль Польскага радыё

## Вялікая сіла для ўз'яднання

Ужо ў пачатку 1920-х гадоў польскія ўлады зрабілі стаўку на развіццё радыёвяшчальнай інфраструктуры. У красавіку 1926 года адбыўся першы эфір Польскага радыё, а ўжо праз год палякі прапанавалі замежным калегам наладзіць абмен радыёпраграмамі, ці, кажучы сучаснай мовай, кантэнтам. У 1931 годзе была пабудавана адна з найбольш моцных радыёперадаючых станцый у Еўропе ў Рашыне, якая пакрывала амаль усю тэрыторыю. Часопіс «Антэна» ў 1936 годзе пісаў: «Радыё з'яўляецца адным з найлепшых вынаходніцтваў чалавецтва. Гэта вялікая сіла, галоўнай мэтай якой з'яўляецца ўз'яднанне народаў».


Калектыўнае праслухоўванне радыё. Заходняя Беларусь

Першапачатковая польскія слухачы маглі пачуць усяго некалькі перадач увечары, але ўжо ў 1930-х гадах вяшчанне вялося на працягу ўсяго дня. Вялікая ўвага надавалася развіццю радыёстанцый ва ўсходніх ваяводствах Польшчы, у тым ліку і ў Заходняй Беларусі. Пры гэтым у Варшаве разумелі, што там пераважае менавіта вясковае насельніцтва, і таму ў эфірнай сетцы павінен быў быць падзел на праграмы для горада і сяла. Усё тая ж «Антэна» пісала: «Хутка знікне са слоўніка выраз «глухая вёска», і ў кожным закутку краіны можна будзе пачуць радыё».

## «Увага, гаворыць Вільня!»

У 1927 годзе было вырашана стварыць аддзяленне Польскага радыё ў Вільні. Тады ж у старажытным горадзе з'явіліся дзве радыёмачты. Першым дырэктарам радыёстанцыі стаў Вітальд Гулевіч. Якія ж праграмы прапанавала новая хваля сваім слухачам? Перш за ўсё, безумоўна, музычныя. Адным з найбольш папулярных прадуктаў радыёстанцыі быў канцэрт па заяўках. Кожны жадаючы за 1 злоты мог замовіць любімую песню і пачуць яе ў эфіры. Хваля перадавала канцэрты Варшаўскай філармоніі. Шмат часу вылучалася на трансляцыю камернай музыкі, у тым ліку з тэатру «Ла Скала» ў Мілане.

Для вясковай аўдыторыі радыё ў Вільні рыхтавала перадачы «Гісторыя танца», «Вячоркі ля мікрафона», «У музычным доме». У іх удзельнічалі між іншым музычныя ансамблі «Каскада» і «Уцеха» (якія спявалі на так званай «крэсовай пальшчызне» — польскай мове са значным уплывам іншых славянскіх моў). Пры гэтым для такіх перадач радыё заклікала да супрацы выканаўцаў народных песень, у тым ліку і беларускіх.


Абсталяванне радыёстанцыі

Важнае месца займалі гумарыстычныя перадачы (напрыклад, «Віленская зязюля»). Не менш увагі надавалася і літаратурным творам, якія ў эфіры агучвалі дыктары радыё. Перш за ўсё, тут гаворка ідзе пра перадачу «Несмяротныя кнігі». У сярэдзіне 1930-х гадоў віленскае радыё пачынае трансляваць перадачы кшталту савецкага «Тэатру ля мікрафона», у якіх рабіўся ўхіл на гістарычную тэматыку. Дарэчы, гісторыя была ключавой тэмай для многіх перадач Польскага радыё. Асабліва гэта назіраецца ў канцы 1930-х гадоў, калі ІІ Рэч Паспалітая знаходзілася на парозе вайны з Трэцім Рэйхам. У гэты перыяд пашыраецца колькасць патрыятычных перадач, дзе распавядаюць пра барацьбу Польскага каралеўства і І Рэчы Паспалітай за сваю незалежнасць («Рэха мінулага», «Старая і новая Вільня»).

Вялікая ўвага надавалася выхаванню маладога пакалення. Тут варта падкрэсліць, што калі ў гарадах Заходняй Беларусі дзеці маглі чуць радыё дома, то ў вёсках радыёпрыёмнікі былі ў асноўным у школах, і таму віленскае радыё рабіла сетку вяшчання так, каб пускаць дзіцячыя праграмы ўдзень, і каб яны супадалі з часам школьных заняткаў. Так, напрыклад, вельмі папулярнай была дыскусійная перадача віленскага радыё «Старыя і маладыя», падчас якой адбываўся дыялог прадстаўнікоў маладога і старэйшага пакалення па розных, актуальных для грамадства тэмах. Акрамя гэтага, віленскае радыё шукала таленавітых вядучых сярод звычайных слухачоў. Так, у праграме «Самі сябе» людзі маглі агучыць свае думкі, прапановы, павіншаваць блізкіх ці знаёмых. Акрамя гэтага, сумесна з Міністэрствам адукацыі Польшчы і Школьным куратарствам рабіліся адукацыйныя праграмы.

## Сельская гаспадарка, памежжа і шмат музыкі

Паўночна-ўсходнія ваяводствы (Віленскае, Навагрудскае і Палескае) былі ў асноўным сельскагаспадарчым краем, гэта знайшло сваё адлюстраванне ў эфіры Польскага радыё ў Вільні. У прыватнасці, рабіліся перадачы, прысвечаныя аналізу агульнапольскага рынку сельскагаспадарчай прадукцыі. Кожную пятніцу сумесна з Віленскай сельскагаспадарчай палатай журналісты рыхтавалі перадачу для буйных землеўласнікаў.

Папулярнымі былі перадачы, прысвечаныя гігіене і здароўю. Улічвалася і тое, што гэта памежны рэгіён. Кожную апошнюю суботу месяца на Польскім радыё з Вільні выходзіла перадача «Субота КАПу», у якой агучваліся апошнія навіны з савецка-польскага памежжа, а таксама расказвалася пра жыццё польскіх памежнікаў на «крэсах». Нарэшце, варта адзначыць, што вільняне вялі трансляцыі царкоўных службаў з касцёлаў.

У маі 1938 года, з нагоды 10-годдзя вяшчання Польскага радыё ў Вільні, у часопісе «Антэна» было надрукавана вялікае інтэрв'ю з яго праграмным дырэктарам Тадэвушам Лапалеўскім, у якім той адзначаў, што «ў новым сезоне віленскае радыё планавала запусціць перадачу «Фартэпіяна і кніга», у якой планавалася спалучыць класічную музыку і літаратурныя творы». Акрамя гэтага, Лапалеўскі адзначаў, што з 1 красавіка 1938 года ў Польскага радыё ў Вільні з'явіўся свой асабісты аркестр пад кіраўніцтвам Уладзіслава Шчэпаньскага, які два разы на тыдзень павінен быў выступаць у эфіры, іграючы папулярную музыку, а ў выхадныя даваць канцэрты ў межах праграмы «Музычны ўікэнд».

Дарэчы, аўтар інтэрв'ю адзначаў, што працы ў віленскага радыё будзе больш, пасля таго, калі ў рэгіёне з'явіцца канкурэнт — радыёстанцыя ў Баранавічах.

## Другая радыёхваля на «крэсах»

Сапраўды, у 1937 годзе ў палескім горадзе распачалося будаўніцтва і мантаванне неабходнага абсталявання для радыёстанцыі. Хутка ў Баранавічах былі ўзведзены дзве мачты, а 1 ліпеня 1938 года пачалося вяшчанне. Моц прыёмніка давала магчымасць трансляваць перадачы на тэрыторыі Навагрудскага і Палескага ваяводстваў, і нават на памежжа.



Вокладка часопіса «Антэна» з выявай Вільні. 1938 год

Першым і апошнім дырэктарам Баранавіцкай радыёстанцыі быў Збігнеў Цыс-Банкевіч. На Польскім радыё ў Баранавічах працавалі два дыктары: Марыля Канзалуўна і Стэфан Саецкі. Сярод праграм баранавіцкага радыё вылучаліся «Сельскагаспадарчыя навіны», падчас якіх вядучыя падрабязна разглядалі падзеі ў гэтай сферы на тэрыторыі трох заходнебеларускіх ваяводстваў. Цікавымі былі перадачы з серыі «Нашы вёскі і мястэчкі», у якіх расказвалася гісторыя розных населеных пунктаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Для моладзі рабіліся прыродазнаўчыя перадачы.

Трошкі больш чым праз год, пасля пачатку вяшчання Польскага радыё ў Баранавічах, распачалася Другая сусветная вайна. Нямецкая вайсковая авіяцыя атрымала загад знішчаць, сярод іншых стратэгічных аб'ектаў на польскай тэрыторыі, радыёстанцыі. 15 верасня самалёты люфтвафэ ажыццявілі налёт на Баранавічы, і ў тым ліку атакавалі будынак баранавіцкага радыё, аднак не знішчылі яго.

Хутка распачаўся «вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь», які скончыўся далучэннем гэтых тэрыторый да СССР. Польскія радыёстанцыі ў Вільні і Баранавічах сталі савецкімі, аднак ненадоўга. У чэрвені 1941-га Германія напала на Савецкі Саюз, і Беларусь была акупавана войскамі вермахта. Адступаючы ў 1944 годзе з Баранавічаў, немцы ўзарвалі польскія радыёмачты, аднак будынак станцыі ацалеў і захаваўся да нашых дзён. Пасля вайны ўлады Польскай Народнай Рэспублікі дамагліся ад кіраўніцтва БССР вяртання абсталявання Польскага радыё ў Баранавічах і размясцілі яго ў Рашыне.

У «Антэне» друкавалася падрабязная праграма не толькі польскага, але і замежнага радыё. Слухачы ў Заходняй Беларусі дакладна ведалі, якія праграмы гучаць на хвалях Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Чэхаславакіі, Італіі і шматлікіх іншых краін. Безумоўна, былі і тыя, хто жадаў пачуць музычныя творы Чайкоўскага на Ленінградскім радыё ці літаратурныя чытанні на «Радыё Камінтэрн». Праграма савецкіх радыёстанцый таксама друкавалася. (S)

**Фота з архіва аўтара, друкуюцца ўпершыню. Больш унікальных фота на сайце газеты: novychas.info**

СПАДЧЫНА

# РУСКІ КАМПАЗІТАР, ЯКОГА ЗАХАПЛЯЛА БЕЛАРУСКАСЦЬ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Шмат хто ў 1920–1940-х гадах не верыў, што Аляксандр Грачанінаў — рускі па нацыянальнасці. Ён так добра ведаў беларускую песню, так глыбока вывучаў у ёй народную душу, што пра яго беларускасць пісалі шматлікія выданні.**

## У выкананні Забэйды-Суміцкага

У пачатку сакавіка 1937 года, праездам з Францыі ў Фінляндыю, на некалькі дзён затрымаўся ў Рызе вялікі рускі кампазітар Аляксандр Грачанінаў (1864–1956). А 5 сакавіка ў сталіцы Латвіі адбыўся ягоны аўтарскі вечар. Поўная зала, дзе выступаў кампазітар, шчыра вітала слыннага на ўвесь свет музычнага дзеяча. Былі ў зале і беларусы з Латвіі і з Вільні. Яны загадзя запрашалі кампазітара да сябе, каб прывітаць яго ў сваёй беларускай грамадзе ў Рызе, але мясцовая ўлада гэтага не дазволіла.

Тады беларусы без запрашэння з'явіліся на вечарыну і публічна паднеслі кампазітару букет кветак і прыгожа аздоблены беларускім арнаментам прывітальны адрас з аўтографамі рыжскіх беларусаў. Арнамент намаляваў беларускі мастак Пётра Міpановіч.

Сярод выкананых твораў Аляксандра Грачанінава ў Рызе была і беларуская песня «Зязюлька». Яна ў зале, як пісаў часопіс «Калоссе», «сабрала найбольш воплескаў».

Дзякуючы дырэктару Варшаўскага радыё Эдмунду Рудніцкаму, наш слынны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі ў 1938 годзе ўпершыню наспяваў на грамафонныя кружэлкі дзесяць беларускіх песень. Сярод іх былі чатыры песні Аляксандра Грачанінава: «Ляціць сарока», «Конь бяжыць», «Ой, рана куры запелі» (калядная), «Шчука-рыба ў моры» (рэкрукцкая).

У 1930–1940-х гадах у Заходняй Беларусі ніводзін беларускі канцэрт ці вечарына не праходзілі, каб у праграме не стаялі музычныя творы Аляксандра Грачанінава. А любоў да беларускай песні, да беларускай народнай творчасці прывіў яму ў пачатку XX стагоддзя прафесар, беларус Мікалай Янчук (1859–1921).

## «Асабліва палюбіў беларускія песні»

Справа ў тым, што пры Маскоўскім універсітэце ў 1903 годзе была заснавана музычная секцыя этнаграфічнага таварыства. Старшынёй секцыі быў выбраны прафесар Мікалай Янчук, які ў той час працаваў сакратаром аддзела этнаграфіі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце. А віцэ-старшынёй пры ім быў абраны Аляксандр Грачанінаў.

На працягу шматлікіх гадоў гэтай секцыяй было сабрана некалькі тамоў народнай музычнай творчасці, у тым ліку, натуральна, і беларускай. «Працуючы ў гэтай камісіі, — піша ў сваёй кнізе «Маё музычнае жыццё» (Парыж, 1934) Аляксандр Грачанінаў, — я меў магчымасць пазнаць песні ўсіх народаў Расіі, з якіх асабліва палюбіў беларускія».

Вялікі кампазітар прыгадвае, як аднойчы Мікалай Янчук прынёс яму дзве беларускія песні «Гэй ты, доля» і «Бяда» з тым разлікам, калі спадабаюцца, каб апрацаваў. Песні Аляксандру Грачанінаву вельмі спадабаліся. Ён напісаў іх для спеву і фартэпіяна і надрукаваў. Калі кампазітар прынёс іх Янчуку, зайграў і перадаў яму ноты ў падарунак, той неяк хітра глянуў на яго, падзякаваў і сказаў: «Надта добра, толькі мелодыі і тэкст гэтых песень не народныя, а мае».

Грачанінаў здзівіўся, бо так добра было падроблена на народны лад. І, вядома ж, у наступным выданні песні Аляксандра Грачанінава «Доля» і «Бяда» мелі аўтара. Вось адкуль пачалося знаёмства рускага кампазітара з беларускімі песнямі.

## Па лесвіцы творчасці

Нарадзіўся Аляксандр Грачанінаў у 1864 годзе ў Калузе, але хутка сям'я пераехала ў Маскву, дзе і прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады будучага кампазітара. Бацькі яго мелі музычныя здольнасці ад прыроды. Маці спявала не народныя песні, а сентыментальныя мяшчанскія рамансы, а бацька любіў спяваць царкоўныя песні.

У 1890 годзе Аляксандр Грачанінаў скончыў педагагічныя курсы Маскоўскай кансерваторыі па класу Васіля Сафронава і пераехаў у Пецярбург, дзе паступіў у кансерваторыю да педагога Рымскага-Корсакава. Пасля кансерваторыі зноў вярнуўся ў Маскву, дзе выкладаў у музычнай школе сёстраў Гнесіных.

Пасля рэвалюцыі 1917 года ў Расіі Аляксандр Грачанінаў некалькі гадоў канцэртаваў у якасці дырыжора і піяніста, а таксама працягваў працу з дзіцячымі харамі. Але з кожным годам старэйшаму рускаму кампазітару станавілася жыць цяжэй і цяжэй у краіне, разбуранай рэвалюцыяй і грамадзянскай вайной.

## Эміграцкая творчасць

У 1925 годзе ён з сям'ёй эмігруе ў Еўропу. Спачатку жыў у Парыжы, а потым пераехаў у Нью-Ёрк. У 1934 годзе ён напісаў і выдаў кнігу ўспамінаў «Маё музычнае жыццё», а праз 20 гадоў кніга на англійскай мове пабачыла свет і ў Нью-Ёрку.

У 1932 годзе Рыгор Шырма пачаў перапісвацца з Аляксандрам Грачанінавым, які жыў у Парыжы. Аднойчы паслаў яму 25 запісаў заходнебеларускіх народных песень з просьбай апрацаваць іх для хору. Аляксандр Грачанінаў іх апрацаваў і даслаў Рыгору Шырму ў Вільню.



Фота прадстаўлены аўтарам

Аляксандр Грачанінаў


BIAŁORUSKI ZWIĄZEK AKADEMICKI U. S. B. w Wilnie.

We środę dn. 15 czerwca 1932 r. urządza w Parku im. Gen. L. Żeligowskiego

KONCERT PIEŚNI BIAŁORUSKIEJ

Program:

CHÓR STUDENCKI pod kierownictwem G. SZYRMY

wykona szereg ludowych pieśni białoruskich, w opracowaniu muzycznem: M. Aladawa, M. Ancewa, Czerepnina, K. Gałkowskiego, Hreczaninowa, Leontowicza i innych.

W trakcie Koncertu ... odtańczony białoruski taniec narodowy „LAWONICHA"

ZARZĄD ZWIĄZKU.

Афіша канцэртнага хору Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні за 15 чэрвеня 1932 года. На ёй ёсць і прозвішча Грачанінава

На канцэртных выступленнях, якія шмат разоў ладзіліся ў Вільні, гарманізацыі Аляксандра Грачанінава так рэльефна выступалі сярод іншых, стваралі такія асаблівыя настроі, што публіка, не толькі беларуская, заўсёды звярталася з просьбай паўтарыць альбо прасіла проста перапісаць іх.

Прастата, яснасць, прыгожая гучнасць без непатрэбных, чужых народу бравурных эфектаў, строга захаваны народны лада-тanальны каларыт, дужа цікавы і не аднастайны спосаб гарманізацыі — вось асаблівасці тых апрацовак, якія так значна адрозніваліся ад іншых.

«Перапёлка», «Раёк», «Перад Пятром», «Калыханка», «Вяснянка» — гэта былі і засталіся такія цудоўныя беларускія абразкі, што іх спявалі ў іншых краінах Еўропы, а «Перапёлачка» даляцела аж да Амерыкі. «Уклад, зроблены Грачанінавым у гісторыю развіцця беларускай песні, — піша Рыгор Шырма ў сваёй кнізе «Песня — душа народа» (Мн., 1976. с. 40), — уяўляецца так. Для мяшанага хору апрацаваны: «Перапёлачка», «Раёк», «Перад Пятром», «Чаму селязень», «Ляцела зязюля», «Не кур, не вей, мяцеліца», «Ішла каляда», «Ой, куры, куры», «Ці ў полі не каліна была», «Пamру, памру, маці» і «Конь бяжыць, зямля дрыжыць».

Апрача таго, напісаны для аднаго голасу з акампанементам раяля: «Зазвінела пчолачка», «Доля», «Бяда», «Вяснянка», «Купалінка», «Калыханка», «Зязюля» і адна скрыпкавая п'еса на тэму калядкі з Пружанскага павета. Чатыры апошнія песні напісаны таксама для голасу з акампанементам аркестра і перакладзены на англійскую мову.

У гэтых песнях народная мелодыя захавана для голасу без змен, а ўжо акампанементам Грачанінаў малюе свае беспадобныя музычныя ўзоры. Такое тонкае мастацтва, напрыклад, у перадачы настрою маладой беларускай кабеты, якая спявае: «Дубравачка, ой, зялёная, у тваім шуме я заблудзіла», што, здаецца, кампазітар, паслухаўшы, пераклаў на музыку свайго акампанементу адвечны шум нашай Белавежы. Безумоўна, гэтыя творы трэба прызнаць шэдэўрамі ў беларускай народнай музычнай літаратуры».

Вядома ж, пералічаные Рыгорам Шырмам — далёка не поўны спіс таго, што з беларускіх песень апрацавана Аляксандрам Грачанінавым для хору і сола. Але рускі кампазітар паказаў усяму свету, што беларуская народная творчасць не толькі не саступае творчасці іншых народаў, а, наадварот, часта пераўзыходзіць іх.

## Беларускасць Грачанінава

Пра беларускасць Аляксандра Грачанінава ў 1930-х гадах пісалі многія заходнебеларускія выданні. У студзені 1937 года часопіс «Калоссе» паведамляў пра канцэрт беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага ў Вільні, што «гэты высокага класу еўрапейскі артыст-чарадзей пры акампанеменце прафесара Галкоўскага выканаў папулярна апрацаваныя А. Грачанінавым чатыры беларускія народныя песні: «Ляціць сарока», «Конь бяжыць», «Шчука-рыба ў моры» і «Ой, рана куры запелі».

На афішах і ў праграмках беларускіх вечароў і канцэртаў у Вільні таксама заўсёды стаяла імя Грачанінава. У праграме вечара беларускай паэзіі і песні, які ладзіўся 15 сакавіка 1936 года Беларускім студэнцкім саюзам, спевакі Л. Сасноўская і С. Савіцкі выконвалі песні Аляксандра Грачанінава «Ляціць сарока, ды скрай аблока», «Конь бяжыць», «Шчука-рыба ў моры», «Ой, рана куры запелі», «Ой, ты, грушка мая».

Рыгор Шырма дасылаў у Парыж народныя беларускія песні, а Аляксандр Ціханавіч Грачанінаў іх апрацоўваў і дасылаў у Вільню Рыгору Раманавічу, дасылаў адна за адной: «На дварэ дожджык», «Ой, гыля, гыля, гусі, вадою», «Зялёны гай», «Там, каля млына» і многія-многія іншыя.

## У падарунак Беларусі

Аляксандр Грачанінаў напісаў цудоўную «Беларускую рапсодыю» для сімфанічнага аркестра і п'есу для скрыпкі і фартэпіяна «Дар Белай Русі». У 1925 годзе Беларускай драматычнай студыяй у Маскве, а ў 1926 годзе Беларускім драматычным тэатрам–2 была пастаўлена казка-феерыя «Апраметная».

Яе напісаў беларускі драматург Васіль Шашалевіч, у якой сатырычнымі сродкамі паказаў гістарычны лёс Беларусі. Музыку да гэтай п'есы напісаў усё той жа Аляксандр Грачанінаў.

Да апошніх дзён Аляксандр Грачанінаў марыў вярнуцца на Радзіму, але гэта яму ажыццявіць не ўдалося. Апошнія гады жыцця ён дажываў адзін і памёр на чужыне ва ўзросце 92 гадоў.

Творчая спадчына кампазітара Аляксандра Грачанінава даволі вялікая — гэта 1000 твораў, у тым ліку 6 опер, дзіцячы балет, 5 сімфоній, 9 вялікіх сімфанічных твораў, музыка да 7 спектакляў, 4 струнных квартэта, шматлікія інструментальныя і вакальныя творы. Але самая каштоўная частка яго спадчыны — харавая музыка, рамансы, харавыя і фартэпіянныя творы для дзяцей.

КІНО

# ТРЫВОГА ВЯЛІКАГА ГЭТСБІ

Андрэй РАСІНСКІ

**«Вялікі Гэтсбі» адкрыў Канскі кінафестываль. Твор выглядае як сучасная вечарынка, што завершыцца настальгіяй і алкагалізмам. Гламурная легкадумнасць яшчэ вядзе рэй, але на даляглядзе — крушэнне мараў.**

Фільм зняты паводле класічнага рамана Фіцджэральда. Герой рамана Нік Караўэй, што здольны выслухоўваць розных людзей, у 1922 годзе трапляе ў Нью-Ёрк. Ягоны сусед — таямнічы багатыр Джэй Гэтсбі — ладзіць шыкоўныя вечарыны ў сваім палацы. На супрацьлеглым беразе жыве стрыечная сястра Ніка — Дэйзі, якая пабралася не вельмі шчаслівым шлюбам з арыстакратам і расістам Томам Б’юкененам. Гэтсбі прагне сустрэцца з Дэйзі, якую даўно кахае, і марыць вярнуць мінулае. Кантрабандная выпіўка ліецца ракой, выводзіць рулады саксафон; і ніхто яшчэ не падазрае пра Дэпрэсію дый далейшыя катастрофы (зрэшты, як не падазраваў пра гэта сам Фіцджэральд, надрукаваўшы свой твор у 1925 годзе).

Але Бэз Лурман, які экранізаваў кнігу, паказвае, што герой-апавядальнік (сыграны Тобі Магуаерам) у фільме ўжо згубіў пад нагамі глебу: ён лекуецца ад дэпрэсіі — запісвае ўласныя ўспаміны на просьбу эскулапа. Калі не лічыць гэтай змены оптыкі, рэжысёр амаль не крэмзаў сюжэт. А сам фільм доўжыцца практычна столькі ж, колькі займае выразнае прачытанне рамана ўголас.

Для кінематографа экранізацыі — сур’ёзныя выпрабаванні. Звычайна пастаўленыя стужкі атрымліваюцца недакладнымі, а калі дакладнымі — то нуднымі. Фільм Бэза Лурмана нудным не назавеш. Рэжысёр разам са сваім героем вырашыў вярнуць мінулае, але, у адрозненні ад Гэтсбі, ён выдае за мінулае сучаснасць і актуальнасць, узброеную атракцыёнамі.

Трохмерныя выявы — з пяшчотнымі сняжынкамі, што залятаюць за каўнер гледача, — тэхналагічная вынаходка для масавай публікі, распешчанай «Аватарам». Камера шмыгае і шнырае, пераляітае з аднаго ўскрайку заліву да другога — што магчыма за кошт кампутарнай сімуляцыі. А вось персанаж Тобі Магуаера назірае за месцічамі: шматлікія вокны ў суседнім доме — гэта нават не «Акно ў двор» Альфрэда Хічкока, а звыклыя сацыяльныя сеткі, дзе блукае шаноўная публіка.



Афіша фільму «Вялікі Гэтсбі»

Падзабыты джаз выбухае хіпхопавымі віскамі 2000-х, бясконцае свята ў палацы Гэтсбі пазычае фарбы гарачых тусовак і дыскатэк. Але гэта не постмадэрновае хуліганства, здзейсненае Лурманам у «Рамэа і Джульеце». У той пастаноўцы класічны Шэкспіраўскі тэкст прамаўлялі тэлевізійныя дыктары, Мантэкі і Капулецi — кіравалі гарадскімі хеўрамі, а Рамэа страляў з пісталета. Архаічны высокі стыль іранічна зніжаўся кліпавай падачай.

У «Вялікім Гэтсбі»–2013 геданістычная мітусня 1920-х — гэта і ёсць сучаснасць, а сённяшнія спевы і танцы — гэта паўтор і ўвасабленне прыгодаў стогадовай даўніны. Паглядзіце на дамскія фрызуры — іх не столькі забылі, колькі яшчэ не носяць: пасля моднага паказу — пойдуць у народ. А ўсе гэтыя саламяныя капялюшыкі, крыклівыя тканіны, пяшчотныя белыя заслоны, панадзіманыя ветрам! Гэта вечны бляск учорашняга дня, калі свята вось толькі скончылася.

Гэтсбі раскідвае ружовыя, салатавыя, блакітныя кашулі — дзяўчынкі ў залі ахаюць ад кічавага шчасця. Гламур спакушае, дыскатэчная эклектыка дэманструе ўладу, экран зaverблівае і зіхаціць.

Лурман згушчае колеры, каб дзейнічала мацней. Калі ў кнізе Том Б’юкенен — бландзін, то ў фільме — брутальны брунет, што болей пасуе нізкім жарсцям. Ягоная дурнаватая палюбоўніца носіць ужо не блакітную, а зазыўна-чырвоную сукенку; а сцэну, калі яе збівае машына, нам пакажуць двойчы (рапідам), каб мы нічога не прапусцілі. Працоўны раён — чарнейшы за само пекла, затое ад пяшчотных кветак, прынесеных Гэтсбі, можна задыхнуцца і ў глядзельнай залі.

Вялікі Гэтсбі — падставовы амерыканскі архетып, як Мікі Маўс, Супермэн і грамадзянін Кейн. Ад Мікі Маўса ў яго — нястрыманая энергія і крыху цукерачны палац. З Супермэнам яго яднае прыдуманы ці здзейснены факт незямнога паходжання. А грамадзянін Кейн падзяляе з Гэтсбі покрыш амерыканскай мары, што не вытрымлівае імпэту адэптаў.

Леанарда ды Капрыа, які сыграў Гэтсбі, дадаў да вобразу досвед іншых сваіх герояў: крыху з «Тытаніку» (сентыментальныя позы), драбніцу сібарыцтва («Джанга вызвалены»), жменьку апантанасці («Выспа праклятых») і зусім няшмат дваістасці («Адступнікі»).

Бэз Лурман засыпле сумневы кветкамі і ўсмешкамі, сцішыць боль, уздыхне над марамі ля зялёнага ліхтара. Але ці варта вінаваціць рэжысёра ў празмерным дыскатэчным гламуры (які падазрона нагадвае скокі ў скандальна-прарочай «Марыі-Антуанэце»)?

Які час — такія і Гэтсбі. Гэтсбі стогадовай даўніны мелі за плячыма ваенную выпраўку, беднае дзяцінства — і дарунак мары. Гэтсбі 2000-х толькі трошку злякаліся ад сусветнага крызісу, пра дысцыпліну не ведаюць, а клапатлівая дзяржава скасавала небяспечнае жабрацтва дзяцей і падлеткаў (асабліва калі дзяцей гвалтам адабраць у бацькоў). Ва ўмовах шчаснага спажывання і суцэльнай апекі марыць пераважна пра іншае спажыванне — яшчэ круцейшае і гламурнейшае.

Гэтсбі, якія захавалі свае дарункі, гэтым сур’ёзна занепакоеныя.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 595

Падпісана да друку 24.05.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.